# ПАГОНЯ

Аўторак
30 сакавіка 1999 г.
№ 22 (399)
Кошт 15.000 руб.


## У Гродне памятаюць пра БНР

**У ноч з 24 на 25 сакавіка невядомыя патрыёты ўзнялі бел-чырвона-белы сцяг на даху гарадзенскага тэатра лялек. Раніцай сюды апаратыўна прыбыла спецгрупа па размінаванню, бо на лесвіцы была прымацавана скрынка з пастрашальным надпісам «Замінавана». Бомбы не знайшлі. Крамольнае палотнішча хуценька прыбралі.**

Дэмакратычная гарадзенская моладзь ў Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі правяла несанкцыянаванае шэсце з плошчы Леніна да плошчы Савецкай. Каля 40 юнакоў і дзяўчат з нацыянальнымі сцягамі прашпацыравалі па пешаходнай шматлюднай вуліцы. Над калонай былі чутны заклікі «Жыве Беларусь!», «Далоў рэжым!», «Наш дом - Беларусь!».

Органы правапарадку ніякіх дзеянняў не прадпрымалі.

У той жа дзень у штаб-кватэры гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне» была наладжана лекцыя па гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі. Асаблівая ўвага звярталася на дзейнасць яе ўрада ў Гродне напрыканцы 1918 г. - у пачатку 1919 года.

**Уладзімір Кавалёў**

## Улада паразумнела

**Ў выніку сустрэчы кіраўніцтва Саюза палякаў Беларусі (СПБ) з прадстаўнікамі Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, што прайшла напрыканцы мінулага тыдня, удалося дасягнуць кампрамісу.**

Нагадаем, што апошнім часам узаемаадносіны Саюза палякаў і беларускіх уладаў прыкметна абвастрыліся, што, на думку кіраўніцтва СПБ, выклікана палітыкай дзяржструктур, накіраванай на русіфікацыю палякаў, якія жывуць на Беларусі.

Як паведаміў старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін, сустрэча з кіраўнікамі Дзяржкамітэта «прайшла даволі жорстка», аднак бакі сышліся на думцы пра неабходнасць канструктыўнага супрацоўніцтва. У выніку дыскусій, адзначыў Т.Гавін, было дасягнута разуменне таго, што праблемы палякаў, якія жывуць на Беларусі, накопліваліся гадамі і могуць быць вырашаны толькі шляхам развіцця дыялогу, а не працягам канфрантацый.

**Марат Гаравы**

## Генадзь Бураўкін прывітаў Рычарда Леаданскага

**Таварыства беларускай мовы зараз перажывае цяжкія часы. Тут рады кожнай капейчыне, дасланай прыхільнікамі роднага слова. Старшыня ТБМ Беларусі, вядомы паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, каб хоць неяк аддзякаваць ахвяравальнікам, дасылае ім сардэчныя лісты.**

Нядаўна такое цёплае пасланне атрымаў актывіст гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне», рабочы вытворчага аб'яднання «Азот» Рычард Леаданскі. Ён пералічыў на рахунак ТБМ паўтара мільёна рублёў. Добрая фундатарская справа не засталася незаўважанай.

Генадзь Бураўкін, у прыватнасці, зазначыў у лісце, што з дапамогай спадара Рычарда ды іншых патрыётаў Бацькаўшчыны матчына слова выжыве і зробіць яшчэ нямала карыснага для духоўнага станаўлення народа, яго культуры і мовы.

**Сцяпан Ярашчук**




**31 сакавіка і 1 красавіка** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы. Вецер слабы. Тэмпература паветра ўначы +1...+3, удзень +8...+13.



# Каму патрэбны Румлёўскі парк?

**Румлёва не відно з плошчы Леніна-Тызенгаўза. Гэта адразу разумееш, калі трапляеш у парк. Бо паркам гэты астравок прыроды, прыціснуты да берага Нёмана будынкамі шматпавярховак, можна назваць, толькі калі лісліваць яму. Сёння ў Румлёва мала што нагадвае пра былую старую сядзібу дробнапамесных шляхціцаў мінулага стагоддзя.**

Тым не менш заўсёды ветліва шамацяць лісцем для таго, хто ў яго ўваходзіць. Кантраст прыроды ў параўнанні з віруючым побач гарадскім жыццём асабліва адчуваецца, калі зойдзеш углыб парку. Туды, дзе рукі людзей паспрабавалі яшчэ гадоў сто таму прыстасаваць прыгажосць і ўтульнасць прыроды для патрэбаў чалавека. Брукаваная сцежка, выгінаючыся, збягае пад нахіленымі стваламі дрэваў уніз да ракі. Там яшчэ і сёння можна сустрэць вавёрку, вожыка. Людзі прыходзяць у Румлёва, і лес усміхаецца ім, а на развітанне птушынымі спевамі запрашае зазірнуць сюды зноў.

Але ж усе гэтыя эмоцыі ў недалёкай будучыні могуць быць толькі ўспамінам. Пілуюць стагадовая дрэвы, паўсюдна - вогнішчы, выгульваюць сабак, высякаюць маладыя дрэўцы. А як выглядае Румлёва, калі сыходзіць снег? Маладзенькай травы яшчэ няма, а сярод леташняй там-сям - бутэлькі, бляшанкі, пластыкавыя пакеты. Брудна. Сорам ды і годзе...

Восенню вучні мясцовай гімназіі збіраюць смецце з краю парку - і ўсё на гэтым. Нічый гэты лес, гэты парк. Даўно ўжо нічый. А дзяржава - які гаспадар? «Ахоўную грамату» выдала - назвала парк помнікам прыроды мясцовага прызначэння. Дзякуй Богу, гарадскія і абласныя прыродаахоўчыя ўлады зараз заўважылі намаганні вучняў і настаўнікаў гімназіі - энтузіястаў-эколагаў: матэрыяльна дапамагаюць ствараць інфармацыйныя стэнды пра гісторыю, флору і фаўну, якія будуць усталяваныя ў лесапарку. Улады таксама ўдзельнічаюць у арганізацыі адукацыйнай школьнай выставы пра Румлёва. Добра, канешне. Але ж гэтага мала. Гаспадар-дзяржава яшчэ па-сапраўднаму не дзейнічае. Няма грошай? Дык, ці мала сярод тых, хто жыве на праспектах Я.Купалы і 40 гадоў Перамогі людзей; якія працуюць на магутных прадпрыемствах? Ці ўмовы, у якіх жывуць рабочыя, не з'яўляюцца адной з задач кіраўніцтва прадпрыемстваў?

Румлёва - гэта тая выспачка здаровага жыцця, якая, падаецца, хутка будзе адзінай сярод горада, што несупынна расце. Зрніце, як імкліва шырыцца мікраён Вішнявец у напрамку вёскі Солы. І таму гарадскія ўлады павінны прыняць на сябе арганізацыю комплекснага добраўпарадкавання лесапарку Румлёва. Тысячы людзей, несумненна, ацэняць зробленае. Няўжо хтосьці будзе чыніць нейкую шкоду, калі ўсё ў лесапарку - сцежкі, асвятленне, сметніцы, лаўкі, спартыўныя снарады, месцы для выгулу сабак - будзе сапраўды нагадваць пра існаванне добрага неабыякавага гаспадара? Наўрад ці.

Пры ўдалай арганізацыі справы шмат людзей адгукнецца. Тым больш, што ў раёне Румлёва - чатыры школы: N3, N9, N26 і N30. А ўдзел ва ўпарадкаванні лесапарку школьнікаў - самае лепшае іх выхаванне. Навучэнцы гімназіі ўжо дзейнічаюць. Спрабавалі абмежаваць і зусім прыпыніць рух машын (па-за будынкам гімназіі) па шляху, што ідзе праз лесапарк. Толькі, ці магчыма дарожным знакам, які далёка ад вачэй інспектара, прыпыніць татаў і мамаў, што возяць сваіх дзетак у школу і з яе. Іншай жа добрай дарогі да гімназіі, на жаль, пакуль што няма. Вырашыць гэтую праблему могуць тыя, хто загадвае архітэктурным аблічам нашага горада.

Што датычыць «сабачай» праблемы Румлёва, то дарэмна наракаць на гаспадароў сабак, калі іншага месца для выгулу проста няма. А цэнтр вакол гімназіі і ўпарку робіць гэтае месца горада небяспечным. Ды што тут казаць! Экалагічны актыў гімназіі, а я ўпэўнены, і іншых навучальных установаў, гатовы ўключыцца ў працу. Справа за Вамі, бацькі горада!

**Віталь Карнялюк,**
**выкладчык Гарадзенскай гімназіі**

## Спектакль працягваецца

**Спектакль пад назвай выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў узору 1999 года, што ладзіць цяперашняя збанкрутаваўшая ўлада (якая ніяк не жадае расстацца з гэтай самай уладай), нехта сёння называе фарсам, нехта - абсурдам, хтосьці - камедыяй альбо маразмам. Які з гэтых эпітэтаў больш падыходзіць да выпадку, што адбыўся 24 сакавіка ў Астравецкім раёне, прапаную вызначыць самім чытачам.**

Менавіта ў гэты дзень мясцовая раённая выбарчая камісія прыняла для сябе сапраўды знамянальнае рашэнне. Яна адмяніла сваю ранейшую рэгістрацыю адзінага і, без перабольшання, цудам зарэгістраванага незалежнага кандыдата ў дэпутаты раённага Савета Мікалая Міхайлавіча Уласевіча, настаўніка геаграфіі адной са школаў. У прадстаўнічы орган улады М.Уласевіч ішоў не па безальтэрнатыўнаму прахадному спісу выканаўчай улады раёна, а па сваёй ініцыятыве і пры падтрымцы сабраных подпісаў выбаршчыкаў.

Нядоўгі, але цярністы шлях незалежнага суіскальніка дэпутацкага мандата рашуча і без лішніх цырымоній (як гэта і прадугледжвае ну вельмі «дэмакратычны» закон аб выбарах) быў перапынены. Афіцыйнай прычынай усяго гэтага стала тое, што ў перадвыбарчай праграме кандыдата ў дэпутаты дужа «пільнай» раённай выбарчай камісіяй была выяўлена страшная крамола. Што да выбарчай камісіі, то ўзначальвае яе адзін з самых верных намеснікаў галоўнага вертыкальшчыка, а ў складзе яе -дзевяць (з 15 членаў камісіі) не менш пільных выканакамаўскіх работнікаў. Гэта ж трэба! У праграме кандыдата ў дэпутаты была зусім недапушчальная, як лічыць камісія, крытыка мясцовай выканаўчай улады, а таксама сцвярджалася пра яе поўную бяздарнасць.

У праграме выявіліся некаторыя справы, у выніку якіх была падарвана эканоміка раёна і некаторыя працоўныя калектывы раёна панеслі страты. Але самым страшным для вертыкальшчыкаў у перадвыбарчай праграме было сцвярджэнне пра тое, што кандыдат у дэпутаты будзе ставіць пытанне аб зняцці з пасадаў асобаў, што злоўжываюць службовым становішчам, і карумпаваных чыноўнікаў. Ну а далей выказвалася меркаванне, што некаторых з іх чакае лёс небезвядомага ў раёне Ялоўскага, былога сакратара райкама партыі, які ў выніку сваёй бурнай прадпрымальніцкай дзейнасці патрапіў у месцы зняволення.

З прыняццем свайго інквізіцыйнага вердыкту раённая камісія доўга не вагалася, усё вырашылася ў лічаныя хвіліны і аднагалосна. Прычым арганізатары гэтага дзейства не палічылі патрэбным паведаміць пра маючае адбыцца пасяджэнне самому вінаўніку, мяцежнаму кандыдату ў дэпутаты. Чалавеку, які вырашыў адкрыта выступіць супраць тых беззаконняў, што чыняцца ў раёне камуна-наменклатурнымі прыстасаванцамі і пярэваратнямі. Рашэнне было вынесена раённай камісіяй ва ўмовах сакрэтнасці.

Аднак гэта не толькі не збіла з панталыку М.Уласевіча, але наадварот, надало яму рашучасці. У гэты ж самы дзень Мікалай Міхайлавіч абскардзіў дзеянні раённай выбарчай камісіі ў мясцовай раённай пракуратуры, а таксама ў Гарадзенскай абласной выбарчай камісіі. Адхілены ад удзелу ў выбарах кандыдат у дэпутаты заявіў, што ў выпадку адмоўнага адказу з вышэйзазначаных інстанцый, ён мае намер перадаць справу ў суд.

**Багуслаў Дольны**

# Мечыслаў Грыб пра сучасны момант

**27 сакавіка Гродна наведаў былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, вядомы палітык, намеснік старшыні Сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Мечыслаў Грыб. У памяшканні абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» адбыліся сустрэчы з лідарамі мясцовых недзяржаўных арганізацый, слухачамі школы правоў чалавека для моладзі, утворанай пры рэгіянальным праваабарончым цэнтры.**

Госць з Менску выказаў свае меркаванні пра маючыя адбыцца выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Падкрэсліў, што ўсе дэмакратычныя сілы краіны вырашылі не браць удзелу ў гэтым фарсе. Стадыя вылучэння кандыдатаў у дэпутаты, іх рэгістрацыя пацвердзілі правільнасць абранага шляху. «Вертыкаль» пакінула ў спісах для галасавання толькі адданых рэжыму людзей.

Вялася гаворка і пра выбары прэзідэнта Беларусі, прызначаныя Вярхоўным Саветам 13-га склікання на 16 траўня бягучага года. Мечыслаў Грыб прааналізаваў магчымае развіццё падзей. «Мы нават не чакалі, што справа пойдзе такімі шпаркімі тэмпамі»,- ацаніў палітык захады па збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі па вылучэнні кандыдатамі ў прэзідэнты Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра.

Падчас сустрэчы ўзнімалася пытанне пра дэкрэт прэзідэнта «Аб некаторых мерах упарадкавання дзейнасці палітычных партый, прафесійных саюзаў, іншых грамадскіх арганізацый». Нічога добрага чакаць не трэба. Перарэгістрацыя спатрэбілася ўладам, каб прыпыніць дзейнасць найбольш незалежных і самастойных грамадскіх аб'яднанняў. Найлепш, выказаў думку Мечыслаў Грыб, наогул не ўдзельнічаць у перарэгістрацыі.

Удзельнікі сустрэчы цікавіліся меркаваннямі госця пра важнічыя заявы беларускага кіраўніцтва ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі NATO ў Югаславіі, магчымасці новай інтэграцыйнай хвалі Беларусь-Расія. Шмат гаворкі было прысвечана эканамічнаму крызісу краіны, моцнаму збядненню людзей.

Для ўдзелу ў наступных сустрэчах запрашэнні будуць накіраваны Станіславу Шушкевічу, Генадзю Карпенку, Станіславу Багданкевічу, Міхаілу Чыгіру ды іншым вядомым беларускім дэмакратычным дзеячам.

**Антон Лабовіч**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Не згодныя аддаць радзіму ў чужое ярмо!

**Каля васьмі тысяч чалавек узялі ўдзел у шэсці і мітынгу, што прайшлі 28 сакавіка ў Менску і былі прысвечаны 81-м угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Па традыцыі акцыя была арганізавана Беларускім Народным Фронтам пры падтрымцы іншых дэмакратычных арганізацый. У ёй узялі ўдзел лідары БНФ, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, прадстаўнікі Свабодных прафсаюзаў, а таксама дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання на чале са спікерам Сямёнам Шарэцкім.**

Удзельнікі акцыі сабраліся на плошчы Якуба Коласа і прайшлі па вуліцах горада да плошчы Парыжскай Камуны пад лозунгамі: «БНР — у 21-е стагодзьдзе!», «Нет — объединению Беларуси и России!», «Не — ядзернай зброі ў Беларусі!» Перад прысутнымі выступілі выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, член «Маладога Фронту», былы палітзняволены Аляксей Шыдлоўскі, сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык, намеснік старшыні АГП Анатоль Лябедзька ды іншыя.

Паводле словаў Л.Баршчэўскага, акцыя па збору подпісаў за вылучэнне Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты краіны «паказала, у першую чаргу, Маскве, што ў Беларусі многія сотні і тысячы людзей не згодныя аддаць радзіму ў чужое ярмо». Тым самым, заявіў Баршчэўскі, «народ падтрымлівае незалежнасць, падтрымлівае наш шлях у еўрапейскае цывілізаванае будучае, наш бяз'ядзерны статус».

А.Шыдлоўскі заклікаў моладзь «падтрымаць усе дэмакратычныя пачынанні апазіцыі», у тым ліку акцыю «Чарнобыльскі шлях-99» і выбары прэзідэнта Беларусі. Згодна з ягонымі словамі, цяперашняе маладое пакаленне «народжана, каб зламаць гэтую сістэму, накіраваную супраць людзей». А.Лябедзька закрануў тэму вайны ў Югаславіі, заявіўшы, што яна адлюстроўвае інтарэсам палітычных авантурыстаў у Маскве і Менску.

«На вялікі жаль, — заявіў Лябедзька, — тое, што адбываецца зараз там, — не на нашу карысць, бо ў Беларусі ўзнімаецца антыеўрапейская, антыамерыканская істэрыя... Выкарыстоўваючы сітуацыю на Балканах, Лукашэнка можа пайсці на знішчэнне суверэнітэту краіны». Лябедзька заклікаў не дапусціць вяртання ў Беларусь ядзернай зброі і паведаміў пра намер АГП правесці другога красавіка ў Менску антыядзерныя шэсці.

На мітынгу былі зачытаны прывітанні старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы і лідара БНФ Зянона Пазьняка. Як адзначыла ў сваім пасланні І.Сурвіла, трэба не дапусціць, каб «беларускі народ праспаў апошнюю магчымасць выратавацца ад новай няволі — інтэграцыі ў расійскую імперыю», інакш «Масква больш не выпусціць нас са сваіх кіпцюроў, і трэба будзе ў крывавых пакутах зноў змагацца за страчаную чалавечую годнасць».

Удзельнікі мітынгу ўшанавалі хвілінай маўчання памяць загінуўшага ў аўтакатастрофе лідара Народнага Руху Украіны Вячаслава Чарнавіла і памёрлага ў Гомелі дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання Ігара Пырха.

Прысутныя прынялі кароткую рэзалюцыю, у якой выказалі рашучы пратэст супраць «нахабных спробаў маскоўскіх імперыялістаў размясціць расійскія ядзерныя ракеты ў Беларусі».

Як паведамілі ва ўправе БНФ «Адраджэнне», пасля заканчэння мітынгу супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі каля дзесяці чалавек (у тым ліку, шэсць актывістаў «Маладога Фронту»), а таксама мікраўтобус з гукаўзмацняльнай апаратурай і сабранымі ў часе акцыі сродкамі для ахвяраў палітычных рэпрэсій. Потым мікраўтобус і ахвяраванні былі вернуты, а апаратура канфіскавана супрацоўнікамі Цэнтральнага РАУС.

**Дзмітрый Уласаў**



## Левая рука не ведае?..

**23 сакавіка 199 года намеснік Лідскага міжрайпракурора вынес афіцыйнае папярэджанне старшыні Лідскай рады БНФ «Адраджэнне» Станіславу Судніку за распаўсюджванне дакументаў ЦВК па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

24 сакавіка той жа намеснік пракурора ануляваў вынесенае папярэджанне, але вынес новае - за арганізацыю незаконных выбараў прэзідэнта РБ.

**Ул.інф.**

## Рэпрэсіі працягваюцца

**Паводле звестак з прэс-службы Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, апошнім часам на сябраў рэгіянальных прадстаўнікоў камісіі, актывістаў передвыбарчай кампаніі ўзмацніўся ціск з боку ўладаў.**

22 сакавіка па сфабрыкаваным абвінавачанні ў дробным хуліганстве асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту старшыня Клічаўскай (Магілёўская вобласць) камісіі па выбарах прэзідэнта Міхаіл Долбік і сябра ініцыятыўнай групы па вылучэнню прэтэндэнтам у кандыдаты ў прэзідэнты З.Пазьняка Васіль Альшэўскі. У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (г.Горкі, Магілёўская вобласць) усе члены мясцовай тэрытарыяльнай камісіі па выбарах прэзідэнта папярэджаны адміністрацыяй гэтай ВНУ аб магчымасці звальнення ў выпадку іхняга далейшага ўдзелу ў працы камісіі. У Крычаўскім, Круглянскім, Мсціслаўскім, Краснапольскім раёнах Магілёўскай вобласці практычна ўсе сябры тэрытарыяльных камісій былі выкліканы ў пракуратуру, міліцыю, райвыканкамы, дзе з імі праводзілася гэтак званая «прафілактычная работа», некаторым актывістам передвыбарчай кампаніі былі вынесены папярэджанні аб магчымасці прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

Старшыні Менскай абласной камісіі па выбарах прэзідэнта Валянціну Баранаву, галоўнаму спецыялісту па працаўладкаванні Менаблвыканкама, было прапанавана звольніцца па ўласным жаданні. А ўсім сябрам Заслаўскай (Мінская вобласць) тэрытарыяльнай камісіі па выбарах прэзідэнта ў мясцовай пракуратуры вынесена афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці іх далейшай працы ў камісіі.

**Генадзь Барбарыч**

# «План Чыгір» падзяліў Сойм

**27 сакавіка ва Ўправе Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» праходзіць чарговае пасяджэнне Сойма БНФ, прысвечанае кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія прызначаны Вярхоўным Саветам 13-га склікання на 16 траўня 1999 года.**

Напярэдадні пасяджэння, якое праходзіць за зачыненымі дзвярыма, намеснік старшыні БНФ і кіраўнік ініцыятыўнай групы па збору подпісаў за Зянона Пазьняка Сяргей Папкоў паведаміў, што завершаны збор неабходнай колькасці подпісаў (100 тысяч) для вылучэння лідара арганізацыі З.Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты. Па стану на 26 сакавіка іх было сабрана 110 тысяч, подпісы працягваюць паступаць ва ўправу і сёння.

Як стала вядома, на Сойме было зачытана пасланне З.Пазьняка, а таксама яго передвыбарчая праграма, якая прапанавана для абмеркавання. У пасланні лідар БНФ выказаўся за тое, каб выбары праходзілі ў адзін дзень, 16 траўня, а не расцягваліся на 10 дзён, як гэта прапаноўвалася раней. Пазьняк паведаміў, што падчас сваёй сустрэчы з кіраўніком Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктарам Ганчаром падкрэсліў неабходнасць правядзення выбараў у строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй і дзеючымі законамі.

Трэба адзначыць, што ў кулуарах БНФ мусіруюцца чуткі пра тое, што пасля рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў прэзідэнты З.Пазьняк можа зняць сваю кандыдатуру з выбараў, а Фронт — адклікаць сваіх сябраў з выбарчых камісій. Аднак кіраўнікі арганізацыі катэгарычна адмаўляюць магчымасць развіцця падзей па такім сцэнарыі.

Лідар БНФ прапанаваў выключыць са складу арганізацыі тых сябраў, якія падтрымлівалі ягонага канкурэнта М.Чыгіра. Былі названы прозвішчы сябры Сойма БНФ Тацяны Ваніной, а таксама ...Юліі Чыгір, жонкі Міхаіла Чыгіра, сябры БНФ.

На Сойме абмяркоўвалася пытанне аб тактыцы паводзінаў у адносінах да кандыдата-канкурэнта па прэзідэнцкай кампаніі Міхаіла Чыгіра. Разам з тым, многія з выступаючых крытыкавалі ўжо вядомае факсімільнае пасланне Зянона Пазьняка «План Чыгір», у якім экс-прэм'ер быў названы стаўленікам расійскіх спецслужб.

**Генадзь Барбарыч**

## Здаць дзяржаву плануецца ў Гродне

**У пачатку красавіка ў Нацыянальны сход Беларусі паступіць традыцыйнае штогадовае пасланне прэзідэнта рэспублікі парламенту краіны. Аб гэтым было заяўлена 26 сакавіка на сустрэчы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі са старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатолем Малафеевым.**

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, бакі абмеркавалі ход падрыхтоўкі да 7-й сесіі Палаты прадстаўнікоў, якая, як вядома, адкрыецца 2 красавіка і, згодна з Канстытуцыяй, будзе працаваць на працягу трох месяцаў. На пленарныя пасяджэнні сесіі выносіцца 101 пытанне, у тым ліку шэраг законапраектаў, праектаў кодэксаў, дэкрэтаў прэзідэнта, міжнародных дагавораў і пагадненняў.

Як адзначалася на сустрэчы А.Лукашэнкі з А.Малафеевым, магчыма, што на маючай адбыцца сесіі будзе разгледжаны дакумент, які распрацоўваецца цяпер часовай камісіяй Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі — праект дагавора аб аб'яднанні дзвюх краін у саюзную дзяржаву, якую прапаноўваецца назваць Саюзам Суверэнных Рэспублік.

Мяркуецца, што праект дагавора будзе прадстаўлены на 12-ю сесію Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая пройдзе ў сярэдзіне траўня ў Гродне.

**Наталля Кулагіна**

## Трагічна загінуў Чарнавіл

**Позна вечарам 25 сакавіка ў аўтамабільнай катастрофе загінуў лідар Народнага руху Украіны (НРУ), старшыня фракцыі НРУ ў Вярхоўнай Радзе Вячаслаў Чарнавіл. Як паведамляе агенцтва УНІАН, трагедыя адбылася ў 23.30 недалёка ад пасёлка Гарадзішча Барыспальскага раёна на аўтадарозе Барыспаль—Залатаноша.**

Паводле дадзеных Міністэрства па пытаннях надзвычайных сітуацый Украіны, трагедыя, у выніку якой загінулі В.Чарнавіл і ягоны вадзіцель, адбылася з-за сутыкнення легкавога аўтамабіля «Таёта» з грузавым аўтамабілем КамАЗ. Прэс-сакратар НРУ Дзмітрый Панамарчук, які таксама знаходзіўся ў машыне, шпіталізаваны з траўмамі ўнутраных органаў у цэнтральную раённую бальніцу. Праваахоўныя органы расследуюць прычыны здарэння.

Вячаслаў Чарнавіл нарадзіўся 24 снежня 1937 года ў Званігарадскім раёне Кіеўскай вобласці ў сям'і вясковых настаўнікаў. У 1960 годзе выдатна скончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта. Па спецыяльнасці — журналіст. У 1960—1963 гадах рэдагаваў маладзевыя перадачы Львоўскай студыі Украінскага тэлебачання.

У 1965 годзе быў звольнены з працы за ўдзел у праваабарончым руху. Да красавіка 1966 года працаваў літаратурным супрацоўнікам газеты «Друг читача»; звольнены з працы за адмову даваць паказанні на палітычным працэсе ў Львове. На Захадзе апублікаваў кнігі «Горе з розуму» (1966), «Правосуддя або рецидиви терору» (1967). У жніўні 1967 года — арыштаваны і асуджаны на 3 гады зняволення (тэрмін скарочаны напалову па амністыі). Потым аднавіў самвыдавецкі «Український вестник». У студзені 1972 года арыштаваны і асуджаны на 6 гадоў зняволення і тры гады ссылкі за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». Ссылку адбываў у Якуціі. У красавіку 1980 зноў арыштаваны і асуджаны па сфабрыкаваным абвінавачванні на 5 гадоў зняволення. У 1983 годзе быў датэрмінова вызвалены па пратэсту пракурора Якуціі.

У 1987 годзе арганізаваў, а з ліпеня 1987 стаў адным з рабочых сакратароў Украінскага Хельсінкскага саюза. У красавіку 1990 года быў абраны старшынёй Львоўскага абласнога савета народных дэпутатаў. У 1991-м у якасці кандыдата ў Прэзідэнты Украіны набраў 23,7 працэнта галасоў выбаршчыкаў. У красавіку 1992 года падаў у адстаўку з пасады старшыні абласавета пасля абрання сустаршынёй Народнага руху Украіны.

**УНІАН**

**Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» накіравала спачуванне партыі «Народны рух Украіны» і яго паплечнікам у сувязі з трагічнай гібеллю лідара гэтай арганізацыі Вячаслава Чарнавіла. Як адзначаецца ў пасланні, у Беларускім Народным Фронце ведалі В.Чарнавіла як прызнанага палітычнага лідара незалежнай Украіны, як нязломнага барацьбіта за свабоду, якому былі блізкія праблемы і беды беларускага народа. Кіраўніцтва БНФ пажадала Народнаму руху «стойкасці духу ў барацьбе за тыя ідэалы, якім прысвяціў жыццё Вячаслаў Чарнавіл». Для ўдзелу ў жалобных мерапрыемствах у Кіеў была накіравана дэлегацыя Беларускага Народнага Фронту.**

## «Мы не пойдзем на выбары без выбару!»

**Каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл Беларусі зацвердзіла тэкст улёткі, якую плануе распаўсюдзіць напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы, прызначаных на 4 красавіка. «Мы не пойдзем на выбары без выбару!» — такі асноўны лозунг улёткі.**

Яе аўтары заяўляюць, што «ўладыператварылі выбары ў мясцовыя Саветы ў фарс», паколькі «незалежных кандыдатаў, якія не баяцца змагацца за простых людзей, не былі зарэгістраваны падначаленымі ўладам выбарчымі камісіямі». Такім чынам, сцвярджаецца ва ўлётцы, «у бюлетэні застануцца толькі пажаданыя ўладам кандыдаты, гатовыя слухаць начальства, а не народу». Каардынацыйная рада заяўляе, што не збіраецца браць удзел у «спектаклі, наладжаным для падману народу».

Свае подпісы пад тэкстам улёткі паставілі старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, віцэ-прэзідэнт Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч, старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта («ценявога» ўрада) Генадзь Карпенка, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Беларусі Міхаіл Пастухоў і каардынатар грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя'97», былы намеснік міністра замежных спраў рэспублікі Андрэй Саннікаў.

**Наталля Кулагіна**

## Не пасароміліся нават АБСЕ

**26 сакавіка ў Віцебску, перад пачаткам судовага працэсу па справе аб дэмантажы помніка расійскаму ваеначальніку А.Сувораву, адбыўся інцыдэнт. Канвойны міліцыянт вымусіў незалежнага фотажурналіста Аляксандра Ужгародскага засвяціць плёнку з кадрам, дзе здымалі кайданкі з абвінавачваемага Уладзіміра Плешчанкі, які, нагадаем, з'яўляецца старшынёй віцебскай рады Беларускага Народнага Фронту.**

А.Ужгародскі заявіў, што дзейнічаў у адпаведнасці з артыкулам 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які гарантуе грамадзянам права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі. Сведкамі інцыдэнту з фотакарэспандэнтам сталі каля 30 чалавек, прысутных у зале, у тым ліку назіральнікі ад АБСЕ.

Што ж да самой справы аб дэмантажы помніка А.Сувораву, то, як заўважыў адвакат Уладзімір Шайкевіч, ягоны падабаронны не віноваты, а матэрыялы, прадстаўленыя суду, сабраны з грубейшымі парушэннямі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

Тым не менш, суд у чарговы раз адмовіў абароне ў хадайніцтве аб змяненні меры стрымання абвінавачваемаму. У.Плешчанка застаецца за кратамі вось ужо больш як паўгода.

**Леў Каменскі**

# Жыць або карміць?

**Няма ліха без дабра - гэтая прымаўка яшчэ раз пацвердзілася ў сувязі з праблемамі дзіцячага харчавання ў Беларусі. Паводле меркаванняў педыятраў, апошнім часам колькасць мацярок, якія кормяць немаўлят грудзьмі, павялічылася.**

У немалой ступені на гэта паўплывала недаступнасць прадуктаў дзіцячага харчавання беларускай вытворчасці. А купіць слоічак імпартнага соку ці бляшанку мясных кансерваў за 400-600 тысяч рублёў ды пачак сухой сумесі за некалькі мільёнаў могуць сабе дазволіць толькі вельмі забяспечаныя матэрыяльна мацяркі. Да таго ж, як вядома, у сакавіку па загаду Міністэрства гандлю і Міністэрства аховы здароўя Беларусі ўведзены нормы гандлю дзіцячым харчаваннем па спісах з паліклінікі. Як запісана ў дакуменце, зробленага гэта «ў сувязі з павялічэннем попыту насельніцтва.., розніцай у коштах айчыннага і імпартнага харчавання і недахопамі ў арганізацыі гандлю дзіцячым харчаваннем». Між тым, адпаведна словам педыятра з дзіцячай паліклінікі N1 г.Гродна спадарыні Астроўскай, «пражыць без сухіх сумесяў і кашаў дзіцяці, якое знаходзіцца на штучным выкормліванні, немагчыма».

У сувязі з непераадольнымі перашкодамі ў здабыванні ежы для дзяцей, жанчыны ўсё больш схіляюцца да дабрага бабулінага метаду кармлення немаўлят - груднога.

Згодна з дадзенымі галоўнага гарадскога педыятра, за апошнія пяць гадоў колькасць дзяцей- «натуральнікаў», якія атрымліваюць матчына малако да 4-х месяцаў, павялічылася на 20 працэнтаў. Дактары звязваюць гэтую добрую тэндэнцыю таксама і з уводам СААЗ - праграмы папулярызацыі натуральнага выкормлівання. Дарэчы, яна дазваляе па-новаму глянуць на кармленне і выхаванне дзіцяці.

## Стэрэатыпы пра грудное выкормліванне

Стэрэатыпы наконт такой адказнай працы, як грудное выкормліванне, навязваюцца маладым мацяркам усімі - ад свякрухі да ўчастковай медсястры. Яны, у сваю чаргу, засвоілі стэрэатыпы ад сваёй маці і свякрухі, а тыя - ад сваіх. Ланцужок цягнецца са старадаўніх часоў. Але калі-небудзь жа трэба яго разбіць?

Восць як спрабуе разбіць заганны ланцуг ВОЗ з дапамогай практычнага дапаможніка, складзенага еўрапейскім аддзяленнем (Капенгаген, 1993 год).

**1.** Грудное выкормліванне не больш стамляе, чым штучнае. Кармленне грудзьмі проста зручнейшае, чым з бутэлечкі. Малако ў грудзях лягчэй насіць з сабой, яго не трэба ні грэць, ні астуджваць, бо яно заўсёды свежае і аптымальнай тэмпературы. Дзякуючы гэтаму дзіця амаль не падвяргаецца інфекцыі.

**2.** Лічыцца, што ваду даваць абавязкова. Гэта няпраўда. Дзіцяці, якое харчуецца матчыным малаком, да 6-ці месяцаў не патрабуецца нічога, акрамя малака. І вады ў тым ліку.

**3.** Кармленне строга па гадзінніку - здзек над прыродай. Трэба даваць грудзі пры першых прыкметах голаду ці дыскамфорту малога, у неабмежаванай колькасці ўдзень і ўначы. Частата кармлення можа змяняцца ад 6 разоў на суткі да 20. Пры гэтым дзіця не возьме ніякага «заспакаяльніка» - соскі ці пустышкі. Пры кармленні грудзьмі немаўля насычаецца не толькі малаком, але і матчынай цеплынёй ды любоўю.

**4.** Не забірайце грудзі сілком - няхай дзіця само выпусціць. Чым больш высмоктвае - тым больш малака выпрацоўваецца.

**5.** Можна браць дзіця з сабой у ложак. Калі маці не хворая і не адурманеная лекамі, яна ніколі не «прысніць» малое.

**6.** Прападзе - не прападзе... Усе маладыя маці перажываюць неўроз, баючыся, што малака не будзе. Не думайце пра гэта, проста прыкладвайце дзіця да грудзей неабмежавана. Амаль усе жанчыны ў стане выпрацоўваць столькі малака, каб карміць больш як шэсць месяцаў. Памер грудзей пры гэтым не мае значэння. Праблемы пачынаюцца тады, калі маці пачынаюць уводзіць розныя прыкормы, даваць ваду.

**7.** Ці сцэджваць «лішняе» малако? Не абавязкова. У першыя дні выпрацоўкі малака, калі яго зашмат і гэта прычыняе вам дыскамфорт - можна крыху сцадзіць. З часам колькасць малака адрэгулюецца суадносна з апетытам немаўляці. Выключэнне складае застой малака ў грудзях - тады варта звярнуцца да ўрача.

**8.** Не абавязкова піць малако, каб яно выпрацавалася ў грудзях.

**9.** Маці можа карміць грудзьмі, нават калі ўмовы яе жыцця далёкія ад ідэальных. Добрыя мясцовыя прадукты для маці больш танныя, чым замяняльнікі груднога малака для яе дзіцяці.

**10.** Секс. Маладыя маці больш за ўсё турбуюцца за сваю фігуру і сексуальнасць. Многія лічаць, што кармленне грудзьмі робіць іх менш сексуальнымі для мужоў. Аднак гэта не так. Кармленне грудзьмі не псуе фігуры. Наадварот, можа дапамагчы скінуць лішнюю вагу пасля цяжарнасці.

Што датычыць палавога жыцця, то лепей устрымацца да першай менструацыі, калі ў вас няма жадання зацяжарыць адразу пасля родаў. Кармленне грудзьмі -ненадзейны кантрацэптыў.

## Новае жыццё з немаўляткам

Нараджэнне дзіцяці - ужо само па сабе становіцца пачаткам новага адрэзку жыцця жанчыны. Мяняецца ўсё - жыццёвы расклад, сямейныя адносіны, матэрыяльны стан. У нашым грамадстве маці з грудным дзіцём часта ізаляваная ад паўнавартаснага жыцця. Яна не гуляе далей за дваровую тэрыторыю, не чытае, не сочыць за сваім знешнім выглядам, коля яе знаёмстваў абмяжоўваецца. Яна проста выпадае з актыўнага жыцця на некалькі гадоў. З гэтым можна і трэба змагацца. Вось некаторыя парады, як пачаць новае жыццё пасля нараджэння дзіцяці:

- адпачывайце на працягу дня;
- выкарыстоўвайце час кармлення для адпачынку і расслаблення;
- выконвайце толькі асноўную работу па дому;
- прымайце ўсе прапановы дапамагчы па гаспадарцы;
- не прымайце шмат гасцей у першыя месяцы;
- «выходзьце ў свет», узяўшы з сабою дзіця;
- знаходзьце крыху часу для сябе;
- пакідайце малога ненадоўга з нянькай ці бабуляй, сцадзіўшы порцыю малака.

**P.S.:** Па ўсіх спрэчных пытаннях лепш праканультавацца ў вашага педыятра альбо ў цэнтры «Здароўе», тэл. 72-37-00.

**Алена Сіневіч**

# Курсы валют

**На 29 сакавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

Даляр ЗША — 235.000 беларускіх рублёў. Еўра — 254.375,75. Нямецкая марка — 130.060,26. Расійскі рубель — 9.720. Украінская грыўна — 59.874,14. Аўстрыйскі шылінг — 18.486,21. Брытанскі фунт стэрлінгаў — 381.322,78. Італьянская ліра (за 100 адзінак) — 13.137,41. Французскі франк — 38.779,33. Швейцарскі франк — 159.495,05.

У параўнанні з пятніцай, 26 сакавіка, афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 29 сакавіка даляр куплялі па 350.000—355.000 і прадавалі па 360.000—365.000 рублёў.

У параўнанні з пятніцай курс узрос у сярэднім на 5.000 рублёў.

# Даляр «ажыў»...

**26 сакавіка пасля невялікага перапынку аднавіўся рост курсу амерыканскага даляра на «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску. У другой палове дня кошт амерыканскай валюты дасягнуў рэкордных адзнак — 350—355 тысяч рублёў пры купілі, 360—365 тысяч рублёў пры продажу. З пачатку тыдня курс узрос у сярэднім на 5,9 працэнта, а з пачатку сакавіка — на 14,4 працэнта, што толькі на 1,1 працэнта ніжэй за рэкордны сёлетні студзеньскі пакачык.**

На думку банкаўскіх экспертаў, неспрыяльная для нацыянальнай валюты сітуацыя абумоўлена некалькімі фактарамі. Па-першае, да Беларусі дакацілася новая хваля абвастрэння становішча на расійскім валютным рынку, дзе з-за пераносу перамоў урада з Міжнародным валютным фондам і пачатку ракетна-бомбавых удараў па Югаславіі рэальны курс даляра да расійскага рубля за апошнія тры дні павялічыўся больш чым на 15 працэнтаў (з 24 да 28 рублёў за долар).

Па-другое, на валютны рынак «ціснуць» чарговыя кампенсацыі работнікам бюджэтнай сферы, інфармацыя аб выдатакаванні сродкаў на ліквідацыю наступстваў паводкі і падпісаны на днях дэкрэт аб удасканальванні пенсійнага забеспячэння грамадзян, які прадугледжвае павелічэнне пенсій апрача іх традыцыйнай індэксацыі ў сувязі з павышэннем сярэдняй заробнай платы.

Па-трэцяе, курс «падганяецца» распаўсюджанымі чуткамі аб рэзкім — да 50 працэнтаў — павышэнні цэнаў на шэраг асноўных тавараў з 1 красавіка.

Па-чацвёртае, апошнімі днямі адзначаецца павелічэнне курсу даляра да безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку. Так, 26 сакавіка ён вагаўся ў межах 405—420 тысяч рублёў супраць 395—410 тысяч напачатку тыдня — сістэма больш не адчувае дэфіцыту беларускіх рублёў.

Акрамя таго, аператары гэтага сегмента валютнага рынку па-ранейшаму чакаюць крэдытаў Нацыянальнага банка аграпрамысловаму комплексу на правядзенне веснавой сяўбы. Эксперты лічаць, што бліжэйшымі днямі тэндэнцыя да пасаблення рубля не зменіцца. Тым часам, у абменных пунктах камерцыйных банкаў курс продажу даляра дасягнуў у пятніцу адзнакі 300 тысяч рублёў. Максімальны курс куплі склаў 295 тысяч рублёў.

Такім чынам, разрыў паміж сярэднімі банкаўскім і рынкавымі курсамі перавышае зараз 20 працэнтаў.

# Перавалілі за дзесяць мільёнаў

**У лютым 1999 года рэальны памер сярэдняй налічанай заробнай платы рабочых і служачых у Беларусі вырас у параўнанні са студзенем на 6,3 працэнта — з 32 да 34 даляраў ЗША ў пераліку па рынкавым наяўным курсе.**

Паводле дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у лютым заробак рабочых і служачых вырасла на 10,8 працэнта — з 9.582.105 да 10.617.032 рублёў. Пры гэтым, рынкавы курс даляра ЗША павялічыўся на 5 працэнтаў, а афіцыйны ўзровень інфляцыі склаў 13,7 працэнта.

Для параўнання: у лютым 1998 года сярэдні налічаны зарплата рабочых і служачых быў эквівалентны 81 даляру, ці ў 2,4 раза вышэй за цяперашні ўзровень.

**Дзмітрый Уласаў**

# Бубен з вёскі Бубны



**У пяці кіламетрах ад горада Скідаля на ўсхлд знаходзіцца невялічкая вёска Бубны. Адзін са старэйшых выхадцаў з гэтай вёскі, Рыгор Іванавіч Бубен, сцвярджае, што заснавальнікам вёскі з'яўляўся яго продак Бубен. Адсюль і пайшла назва вёскі. Пазней на гэтых бубноўскіх землях пасяліліся Гуліды, Мышко, Гнідко, Бабко. Але ж цяпер з прозвішчам Бубен у вёсцы нікога не засталося. Пакінуў вёску і Рыгор Іванавіч Бубен, цяпер жыве ў Скідалі.**

Больш за 60 гадоў таму ў вёсцы Бубны бурліла жыццё. Тут было каля 50-ці сялянскіх сядзіб, а сялян - больш за 250. Цяпер жа ў вёсцы жыццё загасае, большасць хат пустуе. Тлее жыццё толькі ў дзевяці з іх, дзе жыве 14 чалавек, большасць з якіх - пенсіянеры.

У гады фашысцкай акупацыі многіх сялян вывозілі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Там аказаўся і Рыгор Іванавіч Бубен. Працаваў на будоўлі. Калі вызвалілі, дык разам з іншымі падаўся ў бок роднага дома, але неўзабаве затрымалі і адправілі на зборны пункт фільтрацыі. Калі прайшоў тую фільтрацыю, дык у складзе недзе ста чалавек зноў рушыў на ўсход. Затрымалі праз 40 кіламетраў і прызвалі ў войска. Залічылі ў артылерыю. Далі карабін, а затым аўтамат, паказалі як страляць, крыху азнаёмілі з сістэмай 76-міліметровай гарматы, і салдат быў гатовы да боя. Тут жа паступіў загад рухацца ў напрамку да лініі фронта. За два кіламетры ад яго акапаліся. Але ваяваць не давялося, хутка адправілі ў тыл. І толькі ў сорак восьмым годзе селянін з вёскі Бубны Рыгор Іванавіч змог надыхацца паветрам роднага краю.

Але нядоўга. Пачалася калектывізацыя. Не хацелася яму, як і вяскоўцам, разлучацца з роднай зямелькай, а вымушаны быў - у пошуках лепшага лёсу, бо ў арганізаваным калгасе трэба было працаваць за грамы зерня і капейкі. Перш Рыгор Іванавіч некаторы час жыў у Гродне, а затым назаўжды атабарыўся ў Скідалі, дзе многія дзесяцігоддзі працаваў сталяром на мясцовым камбінаце. Разам з жонкай Верай выгадаваў і вывеў у людзі дачку і сына, падрастаюць чатыры ўнукі.

**Ільля Барысаў**

**На здымку: Р.І.Бубен**

# З новым падаткам, грамадзяне!

**З першага траўня на Беларусі ўстанаўліваецца экалагічны збор за праезд аўтатранспартных сродкаў па тэрыторыях нацыянальных паркаў і запаведнікаў. Распараджэнне аб гэтым зміяшчаецца ў падпісаным днямі ўказе прэзідэнта «Аб устанаўленні экалагічнага збору за праезд аўтатранспартных сродкаў па асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях».**

Сумы ўказанага збору павінны ўносіцца на адпаведныя рахункі нацыянальных паркаў, запаведніка і Міністэрства ўнутраных справаў і накіроўвацца мэтавым прызначэннем на правядзенне прыродаахоўных і аднаўленчых мерапрыемстваў, навуковых распрацовак, экалагічнай асветы, развіццё інфраструктуры турызму і адпачынку насельніцтва, абсталяванне аўтастаянак і стварэнне прыдарожнага сервісу. Савету Міністраў Беларусі даручана на працягу месяца распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб экалагічных пастах, памерах і парадку збірання экалагічнага збору за праезд аўтатранспартных сродкаў па тэрыторыях нацыянальных паркаў і запаведніка.

**Ягор Звоннікаў**

# Здзелку можна здзейсніць на «Дні Volvo»

Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.

**Для ажыццяўлення веснавых ініцыятываў VTB выкарыстоўвае серыю семінараў пад агульнай назвай «Дзень Volvo». Першы з іх адбудзецца другога красавіка ў віцебскім парку імя М.Фрунзе (культурна-дзелавы цэнтр КІМ). Наступныя семінары запланаваныя на пятніцы 14 траўня (Гомель) і 21 траўня (Магілёў).**

Пасля афіцыйнага адкрыцця «Дня Volvo», выступленняў кіраўніка VTB сп. Хенрыка Аспа і менеджэраў па продажах, удзельнікі семінара будуць запрошаны на «каву-брэйк» для нефармальных зносінаў, а потым падзеляцца на групы для працы ў трох секцыях семінара: пытанні пасляпродажнага абслугоўвання, лізінг аўтамабіляў, іх сервіс, запчасткі і сервісная літаратура. У якасці наглядных дапаможнікаў выкарыстоўваюцца відэаматэрыялы, стэнды, праспекты і ўзоры прадукцыі VTC. Сярод іх - цягачы Volvo і аўтамабіль «Хуткай тэхнічнай дапамогі» (Action Servise) - уласнасць адной з трох станцыяў тэхабслугоўвання Volvo на Беларусі.

У рабочым парадку ўдзельнікі «Дня Volvo» абмяркуюць з прадстаўнікамі VTB праблемы, звязаныя з набыццём і эксплуатацыяй фірменнай аўтатэхнікі. У заключэнні семінара, падчас «круглага стала» арганізатары і госці абмяняюцца меркаваннямі, падвядуць вынікі сустрэчы. Адначасова тут жа праходзіць прэс-канферэнцыя для журналістаў.

Кульмінацыяй сустрэчы, вядома ж, з'яўляюцца віктарына «Асноўныя этапы станаўлення «Volvo Corporation» і латарэя па анкетах удзельнікаў акцыі, у выніку чаго шмат хто атрымае каштоўныя падарункі з лагатыпам канцэрна.

**Сяргей Цюнін**

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Улада сілы

*«Куда б ни шёл, ни ехал ты, Но здесь остановись...»*

**І далей радкі з вядомага верша апавядаюць пра зямную, чалавечую падзяку загінуўшым героям мінулай вайны. Спыніцца людзям падказвае сумленне, заклікае іх да гэтага ўнутраны голас.**

А вось іншая карціна з сённяшняга жыцця. Хочаш-не хочаш, а людзі ў сіняватай камуфляванай форме спыняць уздзень і ўначы: калі па справе, а калі проста так, на ўсялякі выпадак, для прафілактыкі, каб памяталі і не забываліся, хто ў дзяржаве правіць баль.

Тых, хто ходзіць на працу ды са службы, пакуль яшчэ не чапаюць. Нават калі ты пераходзіш дарогу на «чырвонае святло» альбо не ва ўстаноўленым месцы, работнікі міліцыі, за рэдкім выключэннем, наўрад ці зробяць заўвагу (што з жабракоў возьмеш?).

Але паспрабуй увечары, калі мала сведкаў, выйсці на вуліцу ў прыстойным адзенні, ды яшчэ «з пахам», то ранак сустрэнеш у КПЗ. Да таго ж, будзеш вінаваты ва ўсім: што парушаеш грамадскі парадак, гучна размаўляеш, спрабуеш аказаць супраціў супрацоўнікам міліцыі ды іншае. Складаецца пратакол і адпраўляецца па месцу працы з усімі далейшымі наступствамі. Пратакола можа і не быць, калі зможаш «дамовіцца» з ахоўнікамі парадку.

Карціна яшчэ больш мяняецца, калі пешаход садзіцца за руль аўтамабіля. Мая міліцыя, якая нібыта мяне беражэ, пачынае надта моцна цікавіцца ўладальнікамі аўтамабіляў, прыкладаючы ўсе намаганні, свядомасць і досвед.

Ездзіш на ўласным аўтамабілі - а цябе праз дзень, а то і штодня, затрымліваюць (з надзеяй - а можа, у цябе штосьці не ў парадку?). Ды і самі паводзіны работніка ДАІ паказваюць уладальніку аўтамабіля, хто на дарозе «гаспадар». Вось ён, сяржант, як бы з неахвотай (раздумвае, ці што?) махнуў жэзлам і ўказаў на абочыну дарогі. Няспешна падыходзіць, нешта мармыча (называе званне, прозвішча), патрабуе прад'явіць дакументы. Ужо гэтай манерай кіроўцы даюць зразумець, што чалавек тут нішто і ніхто, а раз запынілі - значыць, ёсць прычына, і ён ў чымсьці вінаваты. Чалавек выскаквае з-за руля, паслужліва, адчуваючы ў грудзях нейкі халадок, спяшаецца да «гаспадара дарогі» і дрыжачымі рукамі падае дакументы. Грамадзяніна пачынаюць падводзіць пад штраф, маўляў: чаму не прышпілены рэмнем бяспекі? (адшпіліў, як выходзіў з машыны), хто прасіў выйсці з аўтамабіля? (хацеў як лепш!), чаму хуткасць крыху большая за ўстаноўленую? (ёсць хібнасць прыбораў, ды і хто з упэўненасцю можа сказаць, што паказчыкі зняты з маёй, а не чыёйсьці іншай машыны?), каго і куды вязеце, дзе ліцэнзія? (вінаваты, папрасілі падвезці), чаму ў лекаў з аптэчкі скончыўся тэрмін захоўвання і г.д. і г.д. Пры ўсім гэтым ахоўнік парадку, як правіла, забываецца параўнаць нумарныя знакі, нумары кузава, рухавіка з тымі, што ў дакументах (а што, як запэцкаецца?). Ды і каму гэта трэба?

Вадзіцель, часцяком сталага ўзросту, стаіць перад 20-гадовым юнаком і, адчуваючы сваю непаўнавартаснасць, спрабуе нешта казаць у сваё апраўданне. А як апраўдваецца - значыць, яшчэ больш вінаваты (хацеў адпусціць, а Вы яшчэ стаіце?). І вось тут пачынаецца самае цікавае і агіднае.

Супрацоўнік ДАІ становіцца і следчым, і суддзёй, і пракурорам, і судовым выканаўцам адначасова. Можа накласці адміністратыўны штраф, скажам, да некалькіх мінімальных заробкаў (МЗ), а можа зменшыць яго да дзесятых доляў, запісаўшы ў пратаколе ішнае парушэнне. Вось ён, аказваецца, дабрадзей які, змягчыў вырак, злітаваўся. Вадзіцель, дарэшты засмучаны і расчулены, плаціць указаную суму штрафа, дзякуе даішніку за яго «чалавечнасць» і, «шчаслівы», працягвае шлях ды ганіць на чым свет стаіць усю гэтую гнілую сістэму, прэзідэнта і ягоную гвардыю.

А калі ад спыненага пахне алкаголем, ці работніку ДАІ гэта проста падалося, то разбіральніцтва выліваецца ў някепскую суму «зялёных». Гэтым, як правіла, «зарабляюць» на жыццё супрацоўнікі міліцыі ў начны час і неабавязкова работнікі ДАІ: разбярэшся там, што за міліцыянт і якая яго прыналежнасць. Пры ўсім гэтым трэба паказаць сваю руплівасць і значнасць, адпрацоўваючы тым самым прыстойны зарабак.

Работнікам ДАІ, прыкладам, падчас змены (нарада) неабходна выканаць планавае заданне - 25 мер уздзеяння, часцяком - штрафаванне; Аддзелу эканамічнай злачыннасці - 4 пратаколы ў месяц і г.д. Не выконваеш план - значыць, дрэнна, павярхоўна працуеш, таму што дзейнасць праваахоўнага органа вызначаецца колькасцю штрафаў, затрыманняў, пратаколаў ды іншых мераў уздзеяння. Вынікі і наступствы гэтай работы нікога не цікавяць. Ад нядбайных супрацоўнікаў органы перыядычна пазбаўляюцца. Натуральным адборам ствараюцца такія калектывы, дзе ўсе баяцца адзін аднаго, таму што ўзаемна павязаны і ўгразлі ў правапарушэннях. Хто і як, скажам, можа апратэставаць дзеянні нават самага простага паставога міліцыянта, не кажучы пра начальнікаў? Гэтага не ўдаецца пакуль зрабіць нават нашаму вядомаму праваабаронцу В.Шчукіну.

Калі ў пачатку 90-х гадоў у органы МУС з задавальненнем запрашалі служыць былых афіцэраў Узброеных Сіл, то ў хуткім часе зразумелі, што зрабілі вялікую памылку. Армейскія афіцэры ніяк не ўпісваліся ў міліцэйскія структуры, бо з'яўляліся, паводле іх словаў, «белымі варонамі», не маглі знайсці сябе ў новай якасці. Большасць з іх праз некаторы час звольнілася, адзінкі сталі сапраўднымі «ментамі». Усё ж у войску людзі па ўзроўню, якасці адукацыі і выхавання, маральных і этычных нормах паводзінаў, адносінах да выканання доўга на парадак, а мо і на два, пераўзыходзяць супрацоўнікаў МУС. Нездарма ж адносіны нашага народа да войска і міліцыі агульнавядома.



Вячаслаў Шчыткавец

Пры любым раскладзе палітычнай сітуацыі ў РБ войска, мяркую, супраць свайго народа не пойдзе. Таму прэзідэнт, ведаючы і здагадваючыся пра гэта, на Узброеныя Сілы стаўкі не робіць. А адсюль, і адносіны ўлады да войска адпаведныя. Куды больш важна для прэзідэнта ўмацаваць сілы, ад якіх залежыць устойлівасць трона. Аднак А.Лукашэнка не ўлічвае таго факту, што ў міліцыі застаецца служыць не лепшы кантынгент нашага грамадства. Ці памятаеце анекдот савецкіх часоў, калі маладому чалавеку задавалі пытанні пра магчымае звальненне з той ці іншай пасады, на што ён адказваў, што на крайні выпадак пойдзе служыць у міліцыю, бо як не працаваў, так і працаваць не будзе. Але гэта было тады, калі служба (работа) ў міліцыі была непрэстыжнай, калі ўлада думала не толькі пра сябе, але крыху і пра народ.

Цяпер для міліцыі надышлі спрыяльныя часіны. Прэстыж і значнасць службы ствараецца дзяржавай, падмацоўваецца матэрыяльна, прадастаўляюцца істотныя льготы. Супрацоўнікам МУС неабходна адзінае - асабістая вернасць прэзідэнту, усюды і скрозь быць гатовымі выканаць любы яго загад (указ) па барацьбе з уласным народам. Парадаксальна, бо толькі ад свайго народа бачыць цяперашняя ўлада пагрозу свайму існаванню. Пры ўсім гэтым не ўлічваецца, што калі пачнецца нейкая «заваруха», структуры МУС першымі «здадуць» прэзідэнта і яго адміністрацыю з вертыкаллю. Так яны ўжо сфармаваны і падабраны, такі ў супрацоўнікаў менталітэт. Штодзённая работа з крымінальнымі элементамі, прававы нігілізм улады, хочаш не хочаш, а ўплываюць, пакідаючы негатыўны адбітак на тых, хто вядзе гэтую дзейнасць. Як кажуць, з кім справы маеш...; альбо скажы, дзе ты працуеш, і я скажу, хто ты. І вось на гэтыя структуры ўлада робіць асноўную і галоўную стаўку. Што ж тады можна сказаць пра такую ўладу? Каментары непатрэбныя...

А якая выніковасць работы следчых? Лайдакамі іх не назавеш, працуюць, як кажуць, закасаўшы рукавы. Калі прыгледзецца да іхняй работы больш уважліва, пачынаеш разумець, што ўсё гэта фікцыя, паказуха барацьбы са злачыннасцю. Дзве-тры распачатыя крымінальныя справы маюць бытавы характар: дробнае хуліганства, бойкі, п'янства, крадзеж... За што асуджаюць, як правіла, на 2-3 гады, часам умоўна, з адтэрміноўкай выраку. І нават пры такім раскладзе - турмы аказаліся перапоўненымі. Не ад добрага жыцця прэзідэнт арганізаваў амністыю. Вось толькі з якой мэтай? Відаць, Аляксандр Рыгоравіч хоча амністыяй яшчэ больш дэстабілізаваць сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў краіне, каб ўвесці надзвычайнае становішча, як планаваў Л.Берыя ў халоднае лета 53-га года?

Дзе, пытаемся, сёння знаходзяцца тыя 69 (Шушкевіч сваё ўжо атрымаў) буйнамаштабныя карупцыянеры, пра якіх у сваім гістарычным дакладзе казаў дэпутат ВС 12-га склікання А.Лукашэнка? Іх нібы няма, затое ёсць чалавек, які на гэтым стварыў сабе імідж абаронцы прыніжаных і пакрыўджаных. Гэтыя ж падманутыя людзі выбралі яго першым (дасць Бог, і апошнім!) прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Але «сістэме» патрэбныя гучныя справы. Злятае з пасадаў шэраг сілавікоў, у тым ліку МА РБ генерал-палкоўнік А.Кастэнка, а таксама прызначаны пасля яго генерал-лейтэнант Л.Мальцаў. Адзін - за выкарыстанне службовага стану ў карыслівых мэтах, другі - за п'янства. А дзе яны зараз знаходзяцца? Першы прадстаўляе Беларусь у Брусэлі ў штаб-кватэры NATO, другі - у Маскве, у штабе калектыўнай бяспекі СНГ. Выбачайце, як гэта разумець? Я не сумняваюся, што і астатнім карупцыянерам знайшлі ўтульныя, прыстойныя месцы, мабыць, у адміністрацыі прэзідэнта, Савета бяспекі ці яшчэ дзенебудзь. Я таксама не веру, што праваахоўныя органы не маюць фактаў сапраўды буйных злачынстваў, у першую чаргу, эканамічных. Але справа ў тым, што да гэтых злачынстваў, відаць, маюць дачыненне людзі ад улады. А ўлада і сістэма створаны такім чынам і для таго, каб умець сябе абараніць любым спосабам.

Праваахоўчыя органы ў сваёй дзейнасці не могуць стаяць на месцы. Трэба працягваць паказваць перад «бацькам» сваю няўрымслівую, нястомную дзейнасць. Звальняюцца з пасадаў і распачынаюцца крымінальныя справы ў адносінах да Т.Віннікавай, В.Леонава, В.Старавойтава. Але што можа зрабіць прэзідэнт у дачыненні да гэтых грамадзянаў? Ні-чо-га! Т.Віннікава занадта шмат ведае (па пасадзе ёй трэба было) пра ценявы (ўласны) бюджэт прэзідэнта ды іншыя махлярствы на дзяржаўным фінансавым узроўні. В.Леонаў сельскую гаспадарку не разваліваў і ў гэтым яго віну цывілізавана даказаць немагчыма. В.Старавойтава як моцнага прыстойнага гаспадара ведалі ва ўсім свеце яшчэ ў тыя часы, калі маленькі Алесік бегаў басаножа па пыльных вуліцах Рыжковічаў і нават уявіць сабе не мог, які казачны фокус падкіне яму лёс. Любы разважны чалавек разумее, што ў дадзеных кіраўнікоў маглі быць недагляды, хібы і заганы. Бо кожны кіраўнік і дагэтуль адчувае на сабе нядрэмны ціск адміністратыўна-каманднай сістэмы, вертыкальна-бюракратычнай машыны. Нельга было раней, а тым больш цяпер, нешта вырабляць, вырошчваць, выпускаць, не парушаючы супярэчлівае заканадаўства, дырэктывы і інструкцыі, тую жыватворную глебу, на якой расце яго вялікасць г-н чыноўнік.

Тым самым улада ў чарговы раз укляпалася ў «гучныя» тупіковыя справы, а як з іх прыгожа выйсці - не ведае; можа, на гэта чагосьці не хапае? Апошнім часам, па праўдзе кажучы, прэзідэнт, урад пачынаюць карэктаваць сваю дзейнасць з улікам рэаліяў сённяшняга дня. Магчыма, у прэзідэнта з'явіўся разумны, талковы памочнік (дарадца), мажліва, Аляксандр Рыгоравіч сам пачаў разумець, што валюнтарызм у кіраванні эканомікай давёў краіну да ручкі. Але ўсе гэтыя меры, якія цяпер спрабуюць выкарыстаць у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, былі патрэбнымі пяць і больш гадоў таму. Час незваротна страчаны. Ці мы такімі ўжо створаны, што прыйсці да лепшага жыцця можам, але для гэтага трэба ўсё разбурыць «до основанья, а затем...». Не выратуе нас і міфічнае яднанне, і сумніўная інтэграцыйная палітыка. Імпатэнты ля ўлады - жыццё загасае!

Рана ці позна, але за ўсё трэба будзе плаціць! Чым болей учынена, тым плата будзе большай! Думаю, такога не паўторыцца, калі за знішчэнне 40 мільёнаў свайго народа ніхто па закону не адказаў (знайшлі, праўда, крайняга - Л.Берыю). Кожнаму павінна адплаціцца па заслугах! Інакш і быць не можа!

**Вячаслаў Шчыткавец, г.Бабруйск**

# Суд альбо судзілішча?

**Калі ў 1945-1946 гг. Міжнародны ваенны трыбунал судзіў у Нюрнбергу галоўных вайсковых злачынцаў другой сусветнай вайны, нам, салдатам арміі-пераможцы, выхаваным нашымі ідэолагамі ў духу нянавісці да абстрактнага «сусветнага імперыялізму», здавалася, што судовыя прадстаўнікі «загнивающего Запада» зробяць усё магчымае, каб апраўдаць злачынцаў.**

Атмасфера ў зале суда нагадвала нашы ўрачыстыя сходы, прысвечаныя чаму-небудзь чарговаму.., а лаўка падсудных - ганаровы прэзідыум. Падсудныя былі чыста паголеныя, большасць пры гальштуках, свабодна размаўлялі паміж сабой, а іхнія фізіяноміі не давалі падставаў баяцца страты падсуднымі прытомнасці ад голаду.

Абурэнню і здзіўленню нашаму не было мяжы. І толькі, калі ў ноч на 16 кастрычніка 1946 года амерыканскі сяржант Джон Вуд накінуў і зацягнуў на шыях адзінаццаці асуджаных вяровачныя петлі (дванаццаты - Герман Герынг прыняў напярэдні смяротнага пакарання атруту), наша непаразуменне наконт таго, што адбывалася, знікла.

Захад падаў нам наглядны ўрок, як можна і трэба судзіць нават жудасных галаварэзаў, не парушаючы міжнародных прававых нормаў і этыкі міжчалавечых адносінаў.

Варта дадаць, што на сам працэс смяротнага пакарання былі дапушчаны толькі па два карэспандэнты ад дзяржаваў-пераможцаў і былі забаронены любыя здымкі.

Цяпер, назіраючы за ходам суда над былым кіраўніком АТ «Рассвет» Васілём Старавойтавым, нас зноў апаноўваюць тыя ж пачуцці неўразумення і абурэння, але толькі адваротнага сэнсу. Як можна было пасадзіць у клетку і давесці да стану вязня Бухенвальда, 75-гадовага старога, віну якога яшчэ трэба будзе даказаць. Нас не цікавіць ступень віны Старавойтава. Магчыма, ён недзе спатыкнуўся ў сваёй шматграннай гаспадарча-камерцыйнай дзейнасці ці збіўся з кроку ў шэрагах сваіх калегаў па працы, якія дружна крочаць у светлую будучыню, але ён яшчэ толькі абвінавачваемы. А што калі часам здарыцца неверагоднае, і суд будзе вымушаны вынесці апраўдальны вырак? Хто тады адкажа за фізічныя і маральныя пакуты, якім падвергі Васіля Старавойтава?

Гэтае судовае разбіральніцтва нагадвае сярэдневяковую інквізіцыю. Яно ганьбіць увесь беларускі народ, каму не ўласціва жорсткая помста, асабліва ў адносінах да чалавека, які мае немалыя заслугі перад краінай і народам.

Рэжысёрам і выканаўцам гэтага паказнога спектаклю належыць памятаць, што акрамя судовай казуістыкі ёсць яшчэ суд Божы. Як пісаў вядомы паэт:

***Но есть и Божий суд, наперсгники разврата!***
***Есть грозный суд: он ждёт;***
***Он не доступен звону злата,***
***И мысли и дела он знает наперёд,***
***Тогда напрасно вы прибегнете к злословью;***
***Оно вам не поможет вновь,***
***И вы не смоете всей вашей чёрной кровью***
***Ваш вечный позор.***

***Ад імя Рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання «Ветэран»***

**Леанід Закурдаеў**

# NATO - блізка!

**Як вядома, з 12 сакавіка 1999 года колькасць краін-удзельніц Паўночна-Атлантычнага Дагавору (NATO) павялічылася на тры краіны (Польшча, Чэхія і Венгрыя) і цяпер у гэтым саюзе - 19 краін -ЗША, Канада і 17 краін Еўропы (Турцыя нават амаль уся ляжыць у Азіі). І вось цяпер лукашэнкаўская прапаганда загаласіла - «NATO ля нашых межаў, і гэта страшна небяспечна!» Вось, маўляў, немцы-перасяленцы хутка вернуцца на землі Заходняй Польшчы, дзе яны жылі каля 200 гадоў да 1943 года, а палякі - у Заходнюю Беларусь, Украіну і Літву, адкуль яны перасяліліся ў Польшчу ў 1946-1958 гадах. Вось будзе ліха! Так вось запалохваюць беларусаў і рускіх! Дык хто ж нам дапаможа? Вядома ж, - Расія! Яна нам ужо 200 гадоў дапамагала! Прыкладам, у 1939 годзе сталінскі Савецкі Саюз заключыў пакт з гітлераўскай Германіяй. Разам напалі на Польшчу пачалі другую сусветную вайну, амаль два гады кармілі Гітлера, а ён «вераломна» ў 1941 годзе напаў на Савецкі Саюз!**

А хто больш за ўсіх пацярпеў? Польшча і Беларусь! Вось вам і «старэйшы брат»! Савецкая прапаганда хлусіла, што ў 1968 годзе нямецкія войскі восьвось рушаць у Чэхаславакію па просьбе контррэвалюцыянераў, і нам трэба «ратаваць сацыялізм». І пад гэтай маркай з усіх бакоў увялі туды войскі - Савецкі Саюз, ГДР і Польшча. Так і ў 1956 годзе ратавалі «сацыялізм» у Венгрыі, дзе савецкія войскі патапілі ў крыві народнае паўстанне супраць савецкіх акупантаў. А ў 1979 годзе хто ўлез у Афганістан? Савецкія войскі так завязлі, што на працягу дзевяці гадоў лілася кроў, а ўрэшце - вылезлі з ганьбай. А ў 1981 годзе хіба савецкія «спецы» і тэхніка сувязі - не дапамагалі Ярузельскаму здзейсніць у Польшчы вайсковы пераварот? Добра што не ўвялі войскі, а то была б вайна! Вось хто быў сапраўдны агрэсар! Як лопнула савецкая імперыя, дык лопнуў і Варшаўскі ваенны блок. Неяк у Ельцына спыталі: чаму ён так баіцца пашырэння NATO? Ён адказаў, што пашырэння гэтага не баіцца, але не любіць ізаляцыі Расіі. А хто ж яе будзе ізаляваць? Гэта ж не Чачня, дзе расійскія ваякі загубілі сотні тысяч чалавек і з ганьбай выбраліся адтуль! Ужо колькі расійская і савецкая імперыі душылі народы, і цяпер, атрымаўшы незалежнасць, яны жадаюць мець больш надзейнага і моцнага саюзніка, якім цяпер з'яўляецца ў свеце NATO. Многія краіны свету, у тым ліку Украіна і Літва, павіншавалі Польшчу, Чэхію і Венгрыю з уступленнем у NATO, туды ж імкнуцца Прыбалтыка, Балгарыя ды іншыя былыя «саюзнікі» Расіі. А цяпер з гэтай хворай, слабой, агрэсіўнай Расіяй ніхто не хоча мець саюзаў. Адзін Лукашэнка «мудрэйшы» за ўсіх! Ён пнецца ў Саюз з Расіяй любым коштам! І цяпер шкадуе, што ўсе (95) ядзерныя ракеты вывезлі ў Расію, і яму няма чым памахаць перад носам NATO. Але маўчыць ды чакае, калі ж Расія заплаціць за каштоўнае ядзернае паліва з тых ракет (1,5 мільярда даляраў!) Беларусі, бо Украіне ўжо плаціць! А калі заплаціць за супрацьпаветраную абарону Расіі («ад Рыгі да Кіева!») - 400 мільёнаў даляраў у год! А калі будзе плаціць за арэнду сваіх вайсковых базаў? А пенсіі для расійскіх вайсковых, якія апошнім часам аселі ў пабудаваных немцамі гарадах - плаціць з банка Беларусі, Расія не хоча. А за вялізны транзіт у Еўропу і Калінінградскую вобласць? А за Чарнобыль? А за ліквідацыю забруджванняў на пакінутых палігонах і базах? Плаціць не хочуць і не могуць, бо абрушыўся амаль увесь мілітарысцка-прамысловы комплекс, а ён быў галоўным у савецкай эканоміцы.

А чаму Лукашэнка пнецца ў Расію? Бо там яго падтрымалі за фокусы з рэферэндумам 96-га года і змену Канстытуцыі (пад яго дыктатуру). Ніхто ў Еўропе і Амерыцы не падтрымаў, а Расія - падтрымала, бо ёй гэта надта выгадна.

Вось у які «Саюз» нас хочуць уцягнуць!

**А.Пятрушка**

ПАРАЛЕЛІ

# З чаго пачалі, да таго і вярнуліся

**Тэма выбараў у мясцовыя Саветы запаланіла дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Няма зараз ні ў прэзідэнта, ні ва ўрада, ні ў "вертыкалі" праблемы больш надзённай, чым гэта. Пайшла пісаць губерня! Лейтматыў адзіны: вось выбярэм прадстаўнікоў у пасялковыя, сельскія, раённыя і абласныя Саветы — і зажывём заможна і годна. Будзе хлеб і песня, будзе шкварка, а да яе — чарка. Як гаворыцца, чым бы дзіця не цешылася...**

А мы зазірнем у мінулае. Чым было выклікана ўзнікненне інстытута дэпутацтва? На гэтае і іншыя пытанні адказвае кандыдат юрыдычных навук, выкладчык Белдзяржуніверсітэта, эксперт Беларускага рэспубліканскага Фонда падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі **Валерый Сідарчук:**

— Пасля кастрычніка 1917 года на тэрыторыях, падпарадкаваных Саветам, пачалося фармаванне новых органаў улады шляхам выбараў. Канстытуцыя Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь ад 3 лютага 1919 года, а таксама Канстытуцыя БССР ад 11 красавіка 1927 года прадугледжвала выбранне дэлегатаў валасных, павятовых, гарадскіх і Усебеларускіх з'ездаў Саветаў, але не дэпутатаў. І гэта было правільным рашэннем, бо народныя выбраннікі былі занятыя рэалізацыяй прадстаўнічых абавязкаў, не парываючы з асноўнай вытворчай і службовай дзейнасцю, літаральна лічаныя дні на працягу каляндарнага года. У гэтым, на думку аўтараў тагачаснай пралетарскай дактрыны, заключалася перавага савецкай выбарчай сістэмы перад буржуазнай муніцыпальнай.

**— Наколькі выбары першых гадоў Савецкай улады адрозніваліся ад сучасных? І па якіх прынцыпах выбіраліся дэлегаты?**

— Прынцыпы былі прама супрацьлеглыя прызвычаеным цяпер дэмакратычным асновам выбарчай сістэмы. Выбары не былі ўсеагульнымі. Цэлыя сацыяльныя групы, напрыклад, былыя службоўцы царскага рэжыму, дзяржапарата, святары, гандляры, асобы, якія выкарыстоўвалі наёмную працу ды іншыя пазбаўляліся выбарчых правоў. Выбары не былі роўнымі: адзін голас гарадскога выбаршчыка быў прыроўнены да пяці галасоў сельскага. Выбары не былі прамымі, а шматступеннымі. Гэта значыць, што дэлегаты з'езда ніжэйшага ўзроўню выбіралі прадстаўнікоў на вышэйшы. Выбары былі адкрытымі...

**— Ці не назіраецца тут разыходжанне гучных словаў і канкрэтных справаў. Падручнікі гісторыі дагэтуль сцвярджаюць пра маналітнае адзінства рабочых і сялян. А вы гаворыце, адзін голас пралетарыя "каштаваў" пяці галасоў сельскага жыхара. Ці не дыскрымінацыя гэта?**

— Каб гэта было адзіным скажэннем! Канстытуцыя заканадаўча замацоўвала вышэйшае месца Саветаў у сістэме дзяржорганаў. Успомніце лозунг: "Уся ўлада Саветам!". А што было на практыцы? Рэальная ўлада знаходзілася ў руках партыйных камітэтаў. Гэтае відавочнае разыходжанне паміж дэклараваным і сапраўдным становішчам Саветаў і іх членаў было заўважана ўжо ў 1919 годзе.

Трэба адзначыць, што партыйныя органы як носьбіты дзяржаўнай улады нідзе ў заканадаўстве не ўзгадваліся, і гэтыя абставіны яшчэ больш ускладнялі становішча, бо легітымная ўлада ў краіне ажыццяўлялася па-за законнымі формамі, нарматыўнымі парадкамі, гэта значыць, па жаданню партыйных функцыянераў. Гэтая традыцыя ў арганізацыі ўлады ў цэнтры і на месцах захавалася да нашых дзён.

**— І тым не менш, цяпер мы маем мажарытарную сістэму выбараў мясцовых Саветаў...**

— Канстытуцыя БССР ад 19 лютага 1937 года замацавала ўсеагульнае, роўнае, прамое выбарчае права і тайнае галасаванне. Мясцовыя прадстаўнічыя органы сталі называцца Саветамі дэпутатаў працоўных, а выбраныя асобы — дэпутатамі.

Аднак гэтыя дэмакратычныя па форме прынцыпы не адбіліся на рэальным статусе дэпутатаў мясцовых Саветаў. Не было выпадку, каб кандыдатаў было больш, чым адзін. Імкнуцца сацыяльна актыўным людзям у дэпутаты не было сэнсу, бо Саветы ад сельскага да Вярхоўнага не мелі ніякіх рэальных паўнамоцтваў. Ужо тады ўзнікала пытанне: навошта гэтыя Саветы? У народа яны аўтарытэтам не карысталіся. Для ўлады былі непатрэбным цяжарам, на ўтрыманне якога даводзілася выдаткоўваць вялікія сродкі.

**— Такія размовы і тады, і пазней вяліся на кухнях, каб, крый Божа, ніхто не пачуў. У цэлым, насельніцтва ахвотна спяшалася на выбары, публічна абмяркоўвала кандыдатуры, выбірала народных прадстаўнікоў...**

— ... і нават не помніла прозвішчаў сваіх выбранцаў. Больш таго, чым менш значнай была рэальная ўлада дэпутатаў мясцовых Саветаў, тым шырэй становілася заканадаўства аб іх статусе. Канстытуцыі ўтрымлівалі цэлыя раздзелы, прысвечаныя дэпутацтву. Прымаліся законы аб статусе дэпутатаў і іх адкліканні. Заўважу, што на практыцы ніводны абаронца народных інтарэсаў не быў адкліканы. Я казаў, што людзі не цікавіліся работай дэпутатаў, у сваёй масе да іх не звярталіся.

У змене назваў мясцовых прадстаўнічых органаў відавочна бачыцца равіццё сацыяльна-палітычнай дзейнасці. У Канстытуцыі БССР, прынятай 19 лютага 1978 года, яны сталі называцца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, а члены гэтых Саветаў — народнымі дэпутатамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Аднак у выніку выбараў вясной 1990 года традыцыя была парушана. У склад дэпутацкага корпуса трапілі асобы, не звязаныя з сістэмай партыйна-бюракратычнага кіраўніцтва. Некаторыя Саветы (Менскі гарадскі, Навапалацкі, Пінскі ды інш.) спрабавалі пазбавіцца дзяржпартыйнага патранажу. Гэтыя падзеі адбываліся на фоне перабудовы дзяржаўнага і партыйнага жыцця ў рамках усяго СССР. Роля партыйных камітэтаў катастрафічна зніжалася...

**— Вы хочаце сказаць, што менавіта тады ўзнікла ідэя аб'яднаць у адной асобе функцыі першага сакратара партарганізацыі і старшыні выканаўчага камітэта?**

— Так. Але для змяншэння яго адказнасці ўтвараўся прэзідыум мясцовага Савета. Быў прыняты цікавы дакумент "Аб прыкладным палажэнні аб старшынях і прэзідыумах мясцовых Саветаў народных дэпутатаў". Работу абласных, раённых, гарадскіх, раённых у гарадах Саветаў арганізоўвалі прэзідыумы, якія ўзначальвалі старшыні Саветаў. Апошнія выбіраліся на сесіях. Адбылася яшчэ адна метамарфоза. Іншыя партыйныя сакратары ўвогуле не былі абраны старшынямі Саветаў. Выбаршчыкі не даверылі ім быць нават шэраговымі дэпутатамі. А прэзідыумы ўвогуле сталі патрабаваць рэальнай улады і рабілі спробы працаваць на прафесійнай аснове. У 1990-1992 гадах яны валодалі сапраўднымі паўнамоцтвамі. Гэтаму садзейнічала выключэнне з Канстытуцыі шостага артыкула аб кіруючай і накіроўваючай ролі партыі. Менавіта ў такіх умовах быў прыняты Закон аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь. Дэпутату надаваліся шырокія паўнамоцтвы. Але ўскладалася і вялікая адказнасць перад выбаршчыкамі.

**— Зноў жа, на паперы. На практыцы Саветы не валодаюць сёння ніякай уладай, з'яўляюцца дэкаратыўнымі дадаткамі "вертыкалі". Часам узнікае думка, што прэзідэнт наогул хоча іх скасаваць. Чаго каштуюць толькі яго заклікі не хадзіць на выбары, не выбіраць, бо "усё роўна падмануць".**

— Трэба пагадзіцца з гэтым. Цяпер на Беларусі мясцовыя Саветы не адыгрываюць якой-небудзь значнай ролі ў сістэме мясцовага самакіравання. Дэпутаты маюць мала магчымасцяў для вырашэння канкрэтных пытанняў, акрамя арганізацыйных. Цяжка сфармаваць і сам Савет. Іншыя абраннікі атрымалі свае мандаты ў 1990 годзе. Магчымасць іх уплыву на стан грамадскіх справаў зведзена да мінімуму.

**— І тым не менш, разгортваецца перадвыбарчая барацьба за дэпутацкія мандаты Саветаў-99. Калі мясцовы заканадаўчы орган нічога не вырашае, жорстка падпарадкаваны "вертыкалі", то які сэнс у яго дзейнасці наогул?**

— На маю думку, ніякага. Кожны чалавек па-свойму ацэньвае сваю ролю ў грамадстве. Аднак усімі рухаюць інтарэсы: уласныя, грамадскія, партыйныя. І Бог ім суддзя. Маё ўласнае меркаванне такое — набыты ў Беларусі досвед дзяржаўнага будаўніцтва пераканаўча сведчыць, што юрыдычныя гаранты практычна ні ў якай меры не забяспечваюць рэалізацыі агульнадэмакратычных выбарчых прынцыпаў. Галоўнымі ўмовамі з'яўляюцца неабходныя эканамічныя і сацыяльныя пераўтварэнні.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

№________

**ЗАЯВА АБ ПРЫЁМЕ Ў ГРАМАДЗЯНСТВА БНР**

Я (імя, прозвішча)____________________________________

далучаюся да грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі і заяўляю пра вернасць ідэалам БНР - незалежнасці, свабодзе і дзяржаўнасці Беларусі, беларускай мове.

Я прысягаю бел-чырвона-беламу Сцягу і гербу "ПАГОНЯ" як адзіным дзяржаўным сімвалам Беларусі.

Прашу Раду БНР у асобе яе Прэзідыума прыняць мяне ў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі

____________________________________
імя, прозвішча

____________________дзень, месяц, год нараджэння
____________________краіна нараджэння
____________________нацыянальнасць

Хатні адрас____________________________________

дата (дзень, месяц, год) (подпіс)

***Запоўнены ўзор заявы дашліце на адрас ПАГОНІ альбо мясцовай Рады Беларускага Народнага Фронту***



Навігацыю на Нёмане пачалі лебядзі...

## Расіяне «адкрыта зайздросцяць беларусам»

**— аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг, падчас выступлення 25 сакавіка на сесіі агульнага сходу Нацыянальнай акадэміі навук з дакладам аб эканамічным становішчы Беларусі.**

Даклад прэм'ера быў пабудаваны па прынцыпе «магло быць нашмат горш». Для доказу гэтага С.Лінг прывёў факты нядаўняй гісторыі: доўг у памеры 4 мільярды даляраў ЗША, які дастаўся Беларусі пры падзеле СССР; велізарны ваенны патэнцыял былой Савецкай арміі, сканцэнтраваны на заходняй мяжы, які давялося падтрымліваць Беларусі; наступствы Чарнобыля.

У сваім дакладзе прэм'ер прывёў некаторыя паказчыкі. У параўнанні з 1990 годам, разрыў у вытворчасці ВУП, які складаў у пачатку 90-х гадоў каля 40 працэнтаў, скараціўся ў 1998 годзе да 19 працэнтаў. Дзякуючы гэтаму, паводле словаў С.Лінга, «няўхільна расце» пакупніцкая здольнасць насельніцтва, што сведчыць аб «правільнай дынаміцы». Харчовую бяспеку краіны, адзначыў у дакладзе прэм'ер, забяспечвае тое, што крытычны імпарт складае па ўсіх відах прадукцыі толькі 12 працэнтаў, а «мяса, бульба, агароднiна — усё гэта нашай вытворчасці».

Акрамя таго, падкрэсліў С.Лінг, «мы не закрылі ні адной буйной вытворчасці, у выніку чаго ў 1998 годзе каля 60 працэнтаў усіх трактароў, тэлевізараў і халадзільнікаў на тэрыторыі былога СССР, паводле яго ных словаў, выраблены на Беларусі.

Гаворачы пра праблемы эканомікі, прэм'ер адзначыў адсутнасць валютных рэзерваў і высокі ўзровень інфляцыі. Знешні доўг Беларусі, адлаведна ягоным дадзеным, складае 965 мільёнаў даляраў ЗША на 10,5 мільёна чалавек (ці каля 7 працэнтаў ад знешнегандлёвага абароту). Гэтыя праблемы, як даў зразумець С.Лінг, цесна звязаны з фінансавым крызісам у Расіі.

Перад вучонымі кіраўнік урада паставіў наступную задачу — палепшыць «сувязі паміж распрацоўкай і укараненнем». Акрамя таго, было выказана пажаданне, каб вучоныя, якія займаюцца праблемамі ўзаемаадносінаў Беларусі і Расіі, дапамаглі кіраўніцтву рэспублікі пазбегнуць «падводных камянёў інтэграцыі».

**Уладзімір Траццякоў**

## Новы ВАЗ задарма

Расійскі крызіс спрычыніўся да вялікага падзення цэнаў на рускія аўтамабілі. Каб набыць новую танную машыну, не трэба нават ехаць у Расію. Дастаткова пераехаць польскую мяжу ў Брузгах. У суседняй Сакулцы расійскі ВАЗ-074 каштуе $2750, ВАЗ-093 - $3550, ВАЗ-099 -$3800. Сюды, праўда, не ўваходзіць кошт мытных плацяжоў.

## На Украіне канфлікт вакол прыватызацыі

Украінскі парламент адмовіў у прыняцці пераходнага закона наконт прыватызацыі, які мог замацаваць вынікі прыватызацыі 445 вялікіх і сярэдніх фірмаў і каля 5 500 маленькіх. Партыі камуністаў і прагрэсіўных сацыялістаў абвясцілі мараторый на працэс прыватызацыі і рэпрыватызацыю некаторых кампаніяў. Прэзідэнт Л.Кучма заявіў, што парламенцкая апазіцыя адвяргае ўсё, што прапануе прэзідэнт і кабінет міністраў і што парламент не разумее, што эканамічныя законы маюць прыярытэт.

## У Эстоніі «моўная дылема»

Яшчэ адна моўная праблема зафіксавана ў Эстоніі: каля 17 працэнтаў новых прызыўнікоў не размаўляюць па-эстонску. Галоўнакамандуючы генерал-лейтэнант Йоханес Керт плануе адкрыць курсы для навучання салдат роднай мове.

## Рэформа пенсійнай сістэмы ў Польшчы

**Польшча праводзіць рэформу пенсійнай сістэмы.**

Да пачатку 2006 года палякі будуць выходзіць на пенсію пасля дасягнення 65-гадовага ўзросту.

Пасля нядаўняга страйку шахцёраў урад пагадзіўся выплочваць пенсію працоўным небяспечных і цяжкіх прафесіяў пасля адпрацоўкі імі працоўнага стажу ў 25 гадоў, незалежна ад узросту.

## Каты НКВД у Прыбалтыцы спакою не маюць

**22 студзеня судовымі органамі Эстоніі асуджаны былы супрацоўнік НКВД І.Клаассепп, які прызнаны вінаватым у дэпартацыі васьмі сем'яў у 1949 годзе і спробе дэпартацыі яшчэ дзвюх сем'яў. Гэта першы выпадак асуджэння за здзяйсненне злачынстваў супраць чалавецтва ў Эстоніі.**

Распачала таксама сваю дзейнасць спецыяльная Камісія па расследаванню злачынстваў супраць чалавецтва, якая мае задачу выяўляць гэтыя злачынствы падчас нацысцкай і савецкай акупацыяў. Аналагічныя камісіі будуць створаныя ў Латвіі і Літве.

**Сяргей Самасей**

# Сальвадор Далі і «плаваючае кіно»

**У галерэі «У Майстра» адбылася беспрэцэдэнтная падзея - вечарына элітарнага кіно.**

Амерыканскі вучоны Джон Рубін дэманстраваў знакамітыя эратычныя стужкі і эксперыментальныя кіна-калажы.

Публіка была зацікаўленая ў першую чаргу фільмам «Андалузскі пёс», створаным яшчэ ў 1928 годзе Сальвадорам Далі і Луісам Бунюэлем. Гэтая сюррэалістычная стужка ў свой час шакіравала публіку, чым, як лічаць скептыкі, і праславілася. Аўтары новага мастацтва стваралі нешта, дзе «не было ніякай ідэі ці вобраза, які мог бы быць рацыянальна растлумачаны». Фільм складзены з эпізодаў, не звязаных сюжэтна, падобных хутчэй на перарывісты кашмарны сон, поўны падсвядомых сімвалаў. На пачатку стагоддзя анатамічна-паталагічныя падрабязнасці (напрыклад, адрэзаная рука ці мёртвая галава каня ў мурашках), бясспрэчна, прыводзілі кісейных паненак і спадароў у кацялках у жах. Цяпер гэта стала абавязковым атрыбутам камерцыйнага кіно.

Два іншыя фільмы, паказаныя Рубінам, аб'ядноўвае тое, што іх аўтары -эмігранты з суседніх з намі краін. Анімацыя літоўца Улада Старэвіча знятая на маскоўскай студыі ў 1912-м годзе. «Палуднёвую тканку» зняла Мая Дэрэн, якая нарадзілася на Украіне. Такім чынам, бацькамі элітарнага кіно на золку яго станаўлення сталі нашы блізкія суседзі.

Больш таго, дзед самога Джона Рубіна выехаў у Штаты з Азёр. Вось што кажа сп. Джон: «Я да нядаўняга часу нічога не ведаў пра сваё паходжанне. Толькі восем гадоў таму мне на вочы трапіўся фотаздымак, на якім дзед стаяў ля крамы ў горадзе Гродна. Цяпер я вельмі цікаўлюся Беларуссю і вашым горадам».

Спадар Рубін прыехаў у Гродна па амерыканскай навуковай праграме. Ён чытае курс лекцый па амерыканістыцы ва універсітэце. У сябе на радзіме Джон мае невялікую кінастудыю, дзе здымае свае фільмы. Ён стварае «новае мастацтва» пад назвай «плаваючае кіно». Кароткі дакументальны калаж аб паказе праекта «Swimming Cinema» быў прадстаўлены гледачам «У Майстра». Кароткая сутнасць праекта наступная: па-за традыцыйнай мастацкай прасторай сродкамі кіно ствараецца тое, што не падлягае тлумачэнням. Рэальна «плаваючае кіно» выглядае так: на рацэ сярод ночы плывае дзве-тры лодкі з вялізнымі экранамі, на якіх адначасова дэманструюцца нейкія кадры. Уражанне блізкае да назірання НЛА. Уявіце - сярод цемры рухаюцца тры велізарных вока ці плаваюць пад вадой жанчыны ў адзенні. Гледачы пры гэтым вымушаны ісці ці ехаць уздоўж берага, каб убачыць, чым усё скончыцца.



Джон Рубін

Джон Рубін лічыць, што Нёман мог бы стаць цудоўным месцам для дэманстрацыі гэтага праекта. Ён нават размаўляў з адміністрацыяй порта, але тая, паводле словаў кінематаграфіста, «напэўна, падумала, што я вар'ят».

Спадар Джон лічыць, што сродкі кінамастацтва невычарпальныя. Але кіно - мастацтва багатых, і нам вельмі далёка да тых часін, пакуль прафесар універсітэта будзе бавіць уікэнд на асабістай кінастудыі. А то б і мы дагналі ды перагналі Амерыку.

# Жыццё пад нагамі - гэта амаль геніяльна

**Днямі ў галерэі «Тызенгаўз» адкрылася фотавыстава Георгія Гулеўскага, што знаёмы гарадзенцам як аператар абласнога тэлебачання.**

У фокус аб'ектыва Георгія, або, як ён сябе ў жарт называе, Жоржа, трапілі насякомыя і земнаводныя. Гэта таямнічы сусвет стварэнняў, які мы ніколі не заўважаем. Аўтар лічыць, што мурашкі, восы, павукі адчынілі перад ім новы свет: «Яны разумнейшыя за нас, людзей, бо жывуць натуральна, у поўнай гармоніі з прыродай. Яны, маленькія, непрыкметныя, - паўсюдна, а мы пра іх нічога не ведаем. Я паспрабаваў з дапамогай фотааб'ектыва ўбачыць, што ж там усё-такі робіцца...»

Магчыма, насякомыя і амфібіі, якія жывуць на зямлі нашмат больш за чалавека, і ёсць сапраўдныя гаспадары планеты. Яны жывуць, на дзіва, правільна і размеркаваным калектыўным жыццём, не робячы памылак і перажываючы ўсе нашы эксперыменты над прыродай. Пры такіх малых памерах яны ўсё ж мацней за нас, бо могуць сцерці з зямлі прыкметы чалавечага гаспадарання, як толькі той страціць пільнасць: тэрміты сточаць дом, саранча з'есць пасевы, павук затчэ павуціннем усе няроўнасці. Яны існуюць самі па сабе, не звяртаючы ўвагі на істоту, якая ўявіла сябе царом прыроды.

Калі шчыра, то мы баімся іх - маленькіх і на першы погляд бяскрыўдных істот. У нашай падсвядомасці захаваўся нейкі першабытны страх перад павукамі і жабкамі. А на фотаздымках Жоржа Гулеўскага, зробленых на выдатным мастацкім узроўні, яны выглядаюць проста прыгажунамі.

Работы фотамастака - сапраўднае цудоўнае акно ў невядомы свет. На кожнай - сюжэт з жыцця насякомых, «мушыная драма». Павучок напружыўся перад кідком на ахвяру; працуе, цягне будматэрыял у гняздо аса, грэецца на жоўта-белым рамонку царэўна-жаба. Ёсць і эратычныя кадры з жыцця жукоў-шчаўкуноў. Цяжка ўявіць, як мастак здолеў падглядзець усе гэтыя інтымныя, непаўторныя моманты.

Выстава з'явілася сапраўдным адкрыццём цікавага гарадзенскага мастака. Усе прызвычаіліся да перадач гарадзенскага тэлебачання з подпісам «аператар - Г.Гулеўскі». Тым больш прыемным стаў сюрпрыз «энтамалагічнай» выставы. Дэбют стаў вялікім поспехам: кадры і слайды Гулеўскага ўвойдуць у даведнікі і навуковыя выданні прыродаахоўнага ведамства горада. У снежні плануецца больш шырокая экспазіцыя мастака ў выставачнай зале Саюза мастакоў. Самую лаканічную і выразную адзнаку работам Георгія Гулеўскага даў старшыня філіі Саюза мастакоў спадар Асапрылка: «Гэта амаль геніяльна».

# А ты запісаўся ў краязнаўцы?

**У пазамінулую суботу ў школе N26 адбыўся брэйн-рынг «Ці ведаеш ты гісторыю роднага краю?», арганізаваны Альянсам імя Вітаўта Вялікага пры фінансавай падтрымцы грамадскага аб'яднання «Ратуша».**

Для ўдзелу ў інтэлектуальнай гульні было створана тры каманды, у кожную з якіх уваходзіла па два вучні з паралеляў 9-10-11-х класаў. У складзе прадстаўнічага журы былі дацэнт ГрДзУ Мікалай Мельнікаў, выкладчыца гісторыі СШ N26 Людміла Смык і настаўнік беларускай мовы Фёдар Чычкан.

Перад пачаткам гульні вядучая канстатавала, што «тут сабраліся ўсе, хто любіць і паважае нашу культуру, быт, гісторыю нашага горада». Да гэтага можна дадаць, што аматараў усяго вышэйназванага аказалася чалавек 60 гледачоў з усёй школы. Але, нягледзячы на паўпустую залу, дзяўчынкі з фальклорнага школьнага гуртка «Спадчына» ў перапынках выдатна выконвалі нацыянальныя беларускія танцы.

Гадзіну доўжылася спаборніцтва паміж камандамі «Камелот», «Барысаглебскія манахі» і «Нёман». У першым конкурсе патрабавалася скласці прыпеўкі з дадзеных словаў, сярод якіх былі «сялянка», «муж», «канапаты», «беларус». З заданнем усе тры каманды справіліся бліскуча, склаўшы нешта накшталт:

Ганарыцца сялянка
Сваім добрым мужам:
Канапаты, даўгавусы,
Як усе беларусы.

У гэтым конкурсе перамог «Камелот».

Пасля пачаліся самыя складаныя выпрабаванні. Трэба было адказаць на пытанні па гісторыі Гродна, пракаментаваць гістарычную сітуацыю, адгадаць, які гістарычны дзеяч выяўлены на партрэце. Тут вызначыўся недахоп ва ўдзельнікаў гульні ведаў па гісторыі роднага краю. Не адгадаўшы ніводнага партрэта, «Камелот» згубіў перавагу ў ліку, саступіўшы «Нёману». У пятым конкурсе капітанам камандаў належала адказаць на 30 бліц-пытанняў. У выніку «Камелот» і «Барысаглебскія манахі» былі канчаткова разгромлены. Іх капітаны здолелі знайсці адказы толькі на адно і тры пытанні адпаведна з трыццаці. З лікам 22:16:11 перамог «Нёман».

Падчас раздачы прызоў не быў пакрыўджаны ніхто. Каманды атрымалі вялікі торт, кніжкі «Кронан», вершаваныя зборнікі Дануты Бічэль, а таксама касеты з запісамі сучаснай беларускай музыкі. Але ў пераможцаў торт усё-ткі быў самым вялікім. І правільна - салодкае стымулюе работу мозга.

**Алена Сіневіч**

# «Хімік» падпалілі

**У ноч з 17 на 18 сакавіка ў Наваполацку былі падпалены ўваходныя дзверы ў будынку рэдакцыі незалежнай гарадской газеты «Хімік».**

Пажар, які адбыўся прыблізна ў 22.30, наўрад ці быў выпадковым. Справа ў тым, што ўжо даволі даўно працягваецца канфлікт паміж «Хімікам» і гарадскімі ўладамі, у прыватнасці, са старшынёй гарсавета А.Ніякоўскім. Гарадская газета, якая з'яўляецца найбольш уплывовым выданнем у рэгіёне і значна апярэджвае па папулярнасці афіцыйную «Новую газету», не баялася змяшчаць на сваіх старонках матэрыялы, што яўна не падабаліся ўладам. У тым ліку, незалежнае выданне не шкадавала месца і для прадстаўнікоў даволі актыўнага мясцовага апазіцыйнага руху.

Напэўна, падобнае становішча не было даспадобы некаторым людзям у гарадской вертыкалі. Неаднаразова яны спрабавалі «абразуміць» галоўнага рэдактара «Хіміка» Лявона Неўдаха, былі спробы таксама фактычна знішчыць выданне, злучыўшы яго з «Новай газетай» і прыбраўшы пад крыло мясцовай улады. Пасля таго, як гэтыя захады праваліліся, супрацоўнікі рэдакцыі пачалі атрымліваць па тэлефоне пагрозы фізічнай расправы ад невядомых людзей. І вось зараз гэтыя пагрозы пачалі спраўджвацца.

Рэдакцыя «Хіміка» звярнулася ў сувязі з інцыдэнтам у міліцыю. Але пытанне «ці будуць знойдзены злодзеі?», відаць, так і застанецца рытарычным.

**Андрэй Аляксандраў**

# Абнаўляецца будынак царквы

**Праваслаўная рэлігія на Беларусі існуе больш за дзесяць стагоддзяў. За гады існавання дзейнасць рэлігіі зведала і ўздымы, і падзенні. Правы праваслаўных вернікаў абмяжоўваліся пры панскай Польшчы. Агалцелы атэізм зачыняў храмы ўсіх рэлігійных канфесій, разбураў, абсталёўваў пад іншыя мэты выкарыстання. У выніку забароны вернікам рамантаваць зачыненыя храмы, будынкі гэтыя прыходзілі ў заняпад і разбураліся. Такі лёс напаткаў і Святагеоргіеўскую царкву, што на ўскрайку вёсак Некрашы і Гушчыцы. Гэта бачна на фотаздымку тых часоў. Калісьці будынак яшчэ трымаўся, пакуль не рухнула страха і частка сцен.**

Калі абмежаванні на рэлігію адышлі ў нябыт, праваслаўныя вернікі навакольных вёсак вырашылі абнавіць Святагеоргіеўскую царкву. За гэтую нялёгкую справу ўзяліся старшыня царкоўнага Савета Мікалай Іванавіч Іоскевіч і айцец Святаміхайлаўскай царквы горада Скідаля Аляксандр. На абнаўленне будынка царквы адгукнуліся многія, сярод іх - грамадзяне і кіраўнікі прадпрыемстваў, установаў і арганізацый. Сталі ўносіцца грашовыя ахвяраванні. Актыўна адгукнуліся на гэта старшыня СКП



«Абухава» І.Сянько, дырэктар ААТ «Скідальскі цукровы камбінат» Г.Карамушка, дырэктар ААТ «Гроднахлебапрадукт» Ф.Хворык і ягоны намеснік А.Дзерачэнік, дырэктар Скідальскага аўтапарка N5 С.Іоскевіч ды іншыя. За сабраныя грашовыя сродкі быў разабраны стары будынак, расчышчана пляцоўка, выкапана траншэя і заліты падмурак. Усё гатова для кладкі цагляных сценаў. У будаўніцтве добраахвотна прымалі актыўны ўдзел шматлікія вернікі. Але ж грашовых сродкаў не хапае, каб далей працягваць будаўніцтва. Скуль жа іх узяць?

- З ахвяраванняў, - гаворыць прараб-будаўнік Л.Іоскевіч, -як параілі некаторыя кіраўнікі прадпрыемстваў, установаў і арганізацый. Сярод іх і кіраўніцтва будаўніча-эксплуатацыйнага прадпрыемства водагаспадарчых і меліярацыйных сістэм. Усе тлумачаць - няма грошай. Можа яно і так. Грашовымі сродкамі не дапамагаюць і ўлады тых узроўняў, з-за якіх разбураліся храмы. Удзел у абнаўленні будынка пакуль не прыняў калгас «Скідальскі», на тэрыторыі якога знаходзіцца царква. Ёсць упэўненасць, што ў кіраўнікоў гэтага калгаса ўсё-ткі загаворыць сумленне.

Царкоўны Савет звяртаецца да насельніцтва, кіраўніцтва прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур раёна, каб яны ахвяравалі на будаўніцтва Святагеоргіеўскай царквы грашовыя сродкі, якія можна пералічыць на Скідальскі філіял 421 ААБ «Беларусбанка» (рахунак N3015000593892 код 152101502).

**Ілья Барысаў**

**На здымку:** вось да чаго быў даведзены будынак Святагеоргіеўскай царквы агалцелым атэізмам

# Зямлякі шануюць Траўгута

**Са сцен Свіслацкай гімназіі выйшла многа знакамітых людзей. Сярод іх асобна стаіць імя Рамуальда Траўгута. Гэта адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 года ў Беларусі, Літве і Польшчы.**

У 1928 годзе ўдзячныя землякі-свіслачане паставілі помнік у гонар заслугаў знакамітага чалавека, які ў найцяжэйшы час стаў на чале паўстання супраць царызму. У чорныя часы сталінізму помнік быў амаль зруйнаваны. Гэта адбылося ў 1939 годзе. Прайшло 50 гадоў, і ў 125-годдзе са дня смерці знакамітага героя памяць аб ім зноў ажыла ў бронзе і граніце. У 1989 годзе ў Свіслачы зноў адбылося адкрыццё помніка, які адбудаваны паводле старых здымкаў.

Помнік мае выгляд высокага гранітнага пастамента з бронзавым арлом, крылы якога ўзняты да ўзлёту.

Пад медальёнам з выявай героя бачым надпіс: «Рамуальду Траўгуту -землякі (Rodacy) 1928 г.» На левым боку пастамента - даты нараджэння і смерці - 1826-1864 гг., а на правым - два словы: «Бог і айчына». З гэтымі словамі паўстанцы ішлі ў бой.

**Эдуард Віткоўскі**



Помнік Рамуальду Траўгуту ў г.п. Свіслач

АДПАЧЫНАК

# Ад 80-годдзя гімназіі да 90-годдзя Барыса Кіта

**У лютым гэтага года споўнілася 80 гадоў Віленскай Беларускай гімназіі, найважнейшай навучальнай установы Заходняй Беларусі, дзейнасць якой пакінула яскравую старонку ў нацыянальна-вызвольным і культурным жыцці Беларусі. Узнікшая ў няўстойлівыя часы Літоўскай тарыбы і ўраду СССР, Літоўска-Беларуская гімназія адлюстроўвала вялікую прагу беларускага насельніцтва Віленшчыны да сваёй нацыянальнай адукацыі і, нягледзячы на пастаянны недахоп сродкаў і неспрыяльныя адносіны польскіх ды іншых дзяржаўных уладаў, на працягу 25 гадоў існавання была сапраўднай кузняй нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, выхаваўчым цэнтрам адданых сыноў і дачок Бацькаўшчыны.**

Ініцыятыва заснавання гімназіі належала знакамітаму дзеячу беларускага нацыянальнага руху І.Луцкевічу, які таксама быў і выкладчыкам гімназіі. Цяжкую ношу дырэктарства вынеслі на сабе сапраўдныя постаці нацыянальнага і педагагічнага руху - М.Кахановіч (першы дырэктар), М.Анцукевіч, Р.Астроўскі, Ф.Грышкевіч, В.Кавалевіч, А.Міхалевіч, А.Нэкандра-Трэпка, С.Паўловіч, А.Станкевіч, Б.Тарашкевіч, Б.Кіт. Сярод настаўнікаў - І.Дварчанін, М.Гарэцкі, Я.Драздовіч, Х.Ільяшэвіч, І.і А.Луцкевічы, Р.Шырма, П.Шчасны ды іншыя.

Віленская Беларуская гімназія стала alma mater для некалькіх соцень маладых беларусаў, хаця многія з іх па матэрыяльных і палітычных прычынах не здолелі скласці матуру (атрымаць атэстат сталасці). Ад лютага 1919 года, калі ў гімназіі вучылася больш за 340 вучняў, да верасня 1939 года - ужо філіяла дзяржаўнай гімназіі імя Ю.Славацкага, пралягла трагічная дарога ліквідацыі беларускага школьніцтва, увянчаная ганебным загадам канчатковай ліквідацыі школы ад 12 верасня 1939 года Другой Рэчы Паспалітай заставалася жыць усяго некалькі дзён...

Аднак, як узгадвае былы настаўнік гімназіі Б.Кіт, «Эйфарыя першых дзён аб'яднання Заходняй Беларусі і БССР, надзеі на аднаўленне нацыянальнай адукацыі вельмі хутка прайшлі... Вільня і Віленшчына фармальна апынуліся пад літоўскім кіраўніцтвам, і большая частка калектыву гімназіі прыняла прапанову арганізаваць беларускую гімназію ў Навагрудку». Так, ужо ў кастрычніку 1939 года на чале з Б.Кітом дзейнасць беларускай вучэльні працягвалася ў слынным гістарычным горадзе, дзе яшчэ некалькі гадоў таму дзейнічала Навагрудская Беларуская гімназія (зачыненая ў 1932 годзе). Дарэчы, у будынку, узведзеным мясцовым бацькоўскім камітэтам Беларускай гімназіі. Але, гэта ўжо асобны апавед...

Тым не менш, гісторыя Беларускай гімназіі ў Вільні не скончылася. Педагагічны калектыў яе аднавіўся ў 1940-1941 навучальным годзе як няпоўнай сярэдняй школы. Не спыніў ён дзейнасці і з прыходам нямецка-фашысцкіх акупантаў, а ў красавіку 1944 года адзначыў 25-годдзе дзейнасці слыннай гімназіі. Гэта быў апошні навучальны год Віленскай Беларускай гімназіі.

На працягу чвэрці стагоддзя настаўнікі Віленскай Беларускай гімназіі лічылі галоўным выхаванне нацыянальнай свядомасці, патрыятызму; захаванне беларускай нацыянальнай самабытнасці, пашырэнне дэмакратычных і гуманістычных поглядаў. Адчувальны ўплыў на школьны калектыў меў нацыянальны вызвольны рух, у прыватнасці КПЗБ, што стварала шэраг праблемаў як педагагічнаму калектыву, так і навучэнцам. Таму і гісторыя гімназіі ўзгадвае вядомую міфалагічную сітуацыю «Паміж Сцыллай і Харыбдай» (ад кваліфікацыі яе «камуністычнасці» польскімі ўладамі да «нацыяналізму» з боку савецкіх ідэолагаў). Не дзіўна, што найбольш вядомыя выхаванцы гімназіі побач з настаўнікамі былі рэпрэсаваны, а некаторыя з іх стварылі палітычную эліту беларускай эміграцыі пасляваеннага часу. Як не прыгадаць такія прозвішчы, як д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, заснавальнік згуртаванняў беларусаў ў Англіі, Канадзе, старшыня Рады БНР, д-р Вітаўт Тумаш, скарыназнаўца; д-р Янка Станкевіч, мовазнаўца; Наталля Арсеннева - паэтка; Віктар Ярмалковіч - праўнік, мемуарыст і краязнаўца; Язэп Надзюк, гісторык і выдаўца... І нарэшце, Барыс Кіт, сусветна вядомы вучоны ў галіне ракетных паліваў, гісторык матэматыкі, ці не самы першы з настаўнікаў Віленскай Беларускай гімназіі і яе апошні дырэктар часоў пераводу вучэльні ў Навагрудак.

Пра Барыса Кіта, прафесара, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі напісаны кнігі, яго жыццёваму шляху прысвечана цудоўная экспазіцыя ў Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Барыс Уладзіміравіч праз некалькі тыдняў уступае ў 90-ы год свайго драматычнага і разам з тым прыгожага жыцця. Жыцця, у якім цесна павязаны шлях беларускага хлопчыка з Карэліч, беларускай гімназіі ў Навагрудку, жыццё матэматычнага факультэта Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, бурныя 30-я гады Беларускай гімназіі ў Вільні, узначаленне беларускай школы ў Навагрудку, ваенныя шляхі беларускай адукацыі ў Маладэчне, Паставах і, нарэшце, выжыванне і ўзлёт да зорак у фантастычным праекце «Аполла» (абгрунтаванне плыўкага вадароду як паліва касмічнай сістэмы). Мы павінны задацца пытаннем, які ж патэнцыял быў акумуляваны ў Віленскай Беларускай гімназіі, калі вучэльня змагла дэлегаваць у сусветную навуковую эліту такога прадстаўніка? Адказ вельмі просты: прычына ў нацыянальнай сістэме адукацыі і выхавання, якая найбольш спрыяе гарманічнаму раскрыццю чалавечай істоты, таленту і духу чалавека, які можа і здольны ўзняцца «да зорак», быць прыкладам высакароднага здзяйснення, павесці за сабой іншых на вялікую справу.

Віленская грамадскасць, беларускія нацыянальна-культурныя аб'яднанні ў Літве шырока адзначылі 80-годдзе Віленскай Беларускай гімназіі. Не забыты наш знакаміты зямляк, акадэмік Барыс Кіт, імя якога гучала побач з найвялікшымі імёнамі беларускай гісторыі ў Вільні (**гл. «Голас Радзімы» ад 4 лютага 1999 года**). Таму не дзіўна, што пачалася падрыхтоўка да 90-годдзя славутага навукоўца, што адбудзецца 6 красавіка 2000 года.

Для нас, гарадзенцаў, гэта таксама вялікая дата і, спадзяюся, што не толькі Гарадзенская краязнаўчая асацыяцыя, краязнаўчыя суполкі Навагрудка, Карэліч адзначаць гэты юбілей, але і ўся грамадскасць Гарадзеншчыны аддасць належнае слаўнаму сыну Беларусі - няўрымсліваму змагару на ніве беларускай адукацыі і таленавітаму навукоўцу - грамадзяніну Свету.

**А.Майсяёнак,**
**Старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі**



**На здымку:** Педагагічны калектыў Віленскай Беларускай гімназіі сярэдзіны 1930-х гадоў. У другім радзе першы злева - Б.Кіт. З архіву В.Кіта, друкуецца ўпершыню



## Вы сексуальна заклапочаны?

**Для таго, каб даведацца пра ўзровень заклапочанасці, Вам належыць выбраць пэўны працяг незавершаных сказаў у варыянтах а) ці б), які найбольш адпавядае Вашым пачуццям, перакананням, адчуванням і д.п.**

**1. Па-за шлюбам**
а) секс цудоўны, калі ва ўсіх зацікаўленых асобаў няма пярэчанняў;
б) секс можа разбурыць сям'ю.

**2. Я ўпэўнены(-а), што секс**
а) можа служыць прычынай як моцнай занепакоенасці, так і надзвычайнага задавальнення;
б) у цэлым прыемны.

**3. Пасля ўзнікнення сексуальных думак**
а) я адчуваю наплыў патаемных жаданняў;
б) я заўсёды пужліва ўздрыгануся.

**4. Калі каханая(-ы) пачынае мяне лашчыць,..**
а) гэта мяне спярша палохае;
б) адчуваю сябе нібыта на сёмым небе.

**5. Пачатак сексуальных адносінаў**
а) з'яўляецца напружаным момантам, крыніцай стрэсу;
б) увогуле не дадае ніякіх праблемаў.

**6. Я нярвуюся**
а) напачатку сексуальных адносінаў;
б) вельмі мала, калі маю справу з асобамі процілеглага полу.

**7. Калі я сустракаю чалавека, які прываблівае мяне,..**
а) я падыходжу да яго і знаёмлюся;
б) я адчуваю некаторую боязь і няўпэўненасць.

**8. Калі я быў (была) маладзейшым(-ай),..**
а) я марыў(-ла) пра магчымасць заняцца сексам;
б) я палохаўся (палохалася) нават думак пра тое, што ў перспектыве трэба будзе займацца сексам.

**9. Калі нехта фліртуе са мною,..**
а) я не ведаю, што рабіць;
б) я адказваю тым жа.

**10. Групавы секс**
а) напужаў бы мяне да смерці;
б) мабыць, вельмі цікавы.

**11. Калі я парушу вернасць жонцы (мужу),..**
а) мяне, верагодна, адразу ж «застукаюць»;
б) я нават не адчую ніякіх сумненняў.

**12. Я, відаць,..**
а) адчуваў(-ла) бы(б) сябе не ў сваёй талерцы, калі расказаў(-ла) бы(б) непрыстойны анекдот у змешанай кампаніі;
б) расказаў(-ла) бы(б) непрыстойны анекдот, калі б ён быў жартаўлівым.

**13. Непрыстойныя жарты**
а) вымушаюць мяне саромецца;
б) часта прымушаюць мяне смяяцца.

**14. Калі я прачынаюся ад сексуальных летуценняў,..**
а) я адчуваю задавальненне;
б) мне неяк не па сабе робіцца.

**15. Калі ў мяне ўзнікаюць сексуальныя жаданні,..**
а) я пачынаю непакоіцца, не ведаючы куды падзецца;
б) усе памкненні скіроўваю на задавальненне гэтых жаданняў.

**16. Калі я здраджу сваёй палове,..**
а) то гэта толькі мая справа і больш нічыя;
б) я буду хвалявацца пра тое, каб мая палова не даведалася пра здраду.

**17. Набыццё парнаграфічнага часопіса**
а) не засмуціла б мяне;
б) прымусіла б мяне нерваваца, а мо і спалохала б.

**18. Выпадковы секс**
а) лепей, чым наогул ніякага;
б) можа прынесці боль шматлікім людзям.

**19. Пазашлюбны секс**
а) калі-нікалі з'яўляецца неабходным;
б) можа пашкодзіць чыёйсьці кар'еры.

**20. Сексуальныя адносіны прыносяць мне**
а) задавальненне;
б) страх быць выяўленым(-ай).

Падлічыце колькасць супадзенняў з прапанаванымі ніжэй адказамі і запомніце атрыманую лічбу (колькасць балаў).

**Адказы:** 1б, 2 а, 3б, 4а, 5 а, 6а, 7б, 8б, 9а, 10а, 11а, 12а, 13а, 14а, 15б, 16б, 17б, 18б, 19б, 20б.

**Вынікі:** Ад 2 да 6 балаў - узровень Вашай сексуальнай заклапочанасці нізкі (15%). Вы здольныя радавацца сваёй сексуальнасці і дзейнічаць у інтымных сітуацыях вельмі адказна.

Ад 5 да 9 балаў - гэта ўзровень нізкаваты (30%), але засмучацца прычын няма. Варта пачытаць тую-сюю літаратуру, завітаць з кім-небудзь у кінатэатр.

Ад 8 да 12 балаў - Вы занепакоены сваёй сексуальнасцю на 50 працэнтаў. Ну сапраўды залатая сярэдзіна!

Ад 11 да 15 балаў - Ваш узровень сексуальнай заклапочанасці - 70%. Відаць, няблага было б паклапаціцца пра нешта яшчэ. Як думаеце?

Ад 14 да 18 балаў - Вы надзвычай занепакоены сваёй сексуальнасцю, недзе на 85%, але ніякай паталогіі тут няма, не турбуйцеся. Папросту не забывайцеся: здароўе не купіш, беражыце яго.

Вось і ўсё... Хто кажа «не ўсё»? Атрымалася 19 альбо 20 балаў? Ого-о!!! На шчасце, высокі бал таксама не сведчыць, на шчасце, пра нейкую паталогію ў Вас, таму што прапанаваная ў тэсце шкала - для нармальных дарослых людзей. Вам варта заставацца мудрым, упэўненым чалавекам і, як і ўсім іншым, не забывацца на бяспеку і супрацьзачаткавыя меры. Будзьце адказнымі за тых, хто побач з Вамі.

## Украінска-беларускі Конкурс вучнёўскіх даследчых працаў

## "Слядамі гісторыі"

**Арганізатары Конкурсу:**
- Рэгіянальная асацыяцыя выкладчыкаў гісторыі і грамадскіх дысцыплінаў "ДОБА" (Львоў);
- Архіў Найноўшай Гісторыі, Беларускі Гуманітарны Фонд "Наша Ніва" (Менск);
- пры падтрымцы Міжнароднага фонду "Відродження" (Кіеў).

**Старшакласнікі (8-11 кл. і навучэнцы сярэдніх навучальных установаў) Украіны і Беларусі запрашаюцца да ўдзелу ў дыскусіі на тэму "Чалавек-Час-Помнік".** Прапануецца даслаць свае пісьмовыя працы-роздумы на такія тэмы (на выбар):

***1. Помнік – гэта праява грамадскай волі, калі толькі ён не навязаны таталітарным рэжымам. Ці павінны мы гэтыя сведчанні мінулага разглядаць толькі пад палітычным пунктам гледжання?***

***2. Наколькі правільным ёсць сцвярджэнне пра тое, што помнікі "не падманваюць", "не маўчаць"? У такім разе, ці дапамагаюць яны лепей зразумець гісторыю?***

***3. Падчас бітваў, асабліва XX ст., шмат нашых суайчыннікаў ваявала ў складзе розных, часам варожых, сілаў. Як мы цяпер павінны ставіцца да помнікаў, пастаўленых у іх гонар?***

***4. Сёння існуе яшчэ шмат помнікаў, якія сімвалізуюць палітычныя ідэі, што ўжо аджылі. Ці мусім мы іх знішчаць, пакідаць недатыкальнымі ці пераносіць ў іншае месца?***

***5. Ці дапамагаюць нам сёння помнікі не забываць мінулае? Магчыма, мы павінны шукаць іншыя формы захавання духу мінулых часоў?***

***6. Якія помнікі патрэбныя нашаму грамадству сёння?***

**Вашыя даследаванні павінны:**
- мець аб'ём да 8 старонак друкаванага, ці 12 старонак рукапіснага тэксту;
- абапірацца на мясцовы матэрыял;
- выяўляць асабістае стаўленне да грамадскіх з'яваў і працэсаў.
- можна прыкладаць здымкі, малюнкі, цікавыя дакументы, ці іх ксеракопіі.

Удзельнікам Конкурсу трэба **дадаткова**, на асобным аркушы, падаць звесткі пра сябе: імя, прозвішча, год нараджэння, месца навучання, хатні адрас (абавязкова з паштовым індэксам), тэлефон, а таксама пра свайго кансультанта (калі такі ёсць): імя, прозвішча, адрас, тэлефон.

**Па выніках Конкурсу** аўтары 25 самых цікавых працаў з беларускага і 25 з украінскага боку:
- пабачаць свае працы апублікаванымі;
- будуць запрошанымі да ўдзелу ў міжнароднай маоладзевай канферэнцыі "Чалавек-Час-Помнік", якая адбудзецца ў кастрычніку 1999 года ва Львове;
- стануць удзельнікамі разнастайнай культурнай праграмы;
- атрымаюць каштоўныя падарункі;
- атрымаюць магчымасць ў будучым узяць удзел ў іншых міжнародных праектах.

**Што яшчэ важнае:**
- вынікі Конкурсу будуць вядомыя ў верасні 1999 года;
- да ўдзелу ў Конкурсе заклікаюцца аўтары з разнастайнымі палітычнымі і грамадскімі поглядамі.

Просім даслаць Вашыя працы да 30 чэрвеня 1999 года на адрас:
а/с 71, Менск 220123 (з пазнакаю "Конкурс "Слядамі гісторыі")
даведкі па тэл. 229-55-96 (Ірына Коваль).

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1821 Наклад 4639
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 30.03.99 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Таццяна Лучыц
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей